ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (109) красавік 2020 год

CATHOLICNEWS.BY

# Хрыстос Уваскрос! Са Святам!

**Шаноўныя святары, кансэкраваныя браты і сёстры, дарагія вернікі, суайчыннікі!**

Хрысціянская вера – гэта няспынны напамін чалавецтву пра тое, што яно не пакінутае на волю сляпога лёсу. Мы не наступствы выпадковых падзей ці здарэнняў у Сусвеце, але плён творчага акту Сутнасці, недасяжнай нам у поўнай меры, але Якая паказвае нам няспынна сваю бязмежную Любоў. Сутнасці, для Якой мы з’яўляемся дзецьмі, непаслухмянасць і ганарлівасць каторых Яна выпраўляе коштам свайго пасвячэння і сваёй ахвяры. Менавіта пра гэта кажа нам Вялікдзень: твае грахі, чалавеча, прабачаныя! Але прымі, зразумей і будзь удзячны за гэта!

Вялікі Пост, які мы перажылі ў гэтым годзе, быў пазначаны асаблівымі выклікамі, каторыя не павінны аднак пазбавіць нас даверу да Бога і спадзявання на Яго Айцоўскую дабрыню і міласэрнасць да кожнага чалавека. Велікодныя Святы нагадваюць нам, што Сын Божы не застаецца ўбаку ад людскіх выпрабаванняў, але сам бярэ крыж, несучы яго разам з намі, каб на ім памерці і... Уваскрэснуць!

“...Будзьце адважнымі: Я перамог свет”! (Ян 16.33). І сёння мы святкуем удзел у гэтай Перамозе! Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!

Гэта рэчаісная перамога Хрыста над грахом і смерцю няхай дапаможа нам наноў перагледзець нашае жыццё, убачыць і зразумець яго сэнс, ацаніць сваё месца ў ім і ўзважыць свае магчымасці, пагадзіцца з Ягонымі словамі: “Без Мяне нічога не можаце зрабіць” (Ян 15. 5). Так, гэта патрабуе пакоры, але прыклад таго дае нам сам Збаўца: “Ён, будучы ў постаці Бога, не скарыстаўся магчымасцю, каб быць нароўні з Богам, але выракся Самога Сябе, прыняўшы постаць слугі, прыпадобніўшыся да людзей. І з выгляду стаўшы як чалавек, прынізіў Самога Сябе, будучы паслухмяным ажно да смерці, і то смерці крыжовай” (Флп 2.6-8).

Бог любіць нас! Няхай гэтая праўда напаўняе вас, дарагія браты і сёстры, радасцю і спакоем! Няхай дае сілы ў выпрабаваннях, няхай вучыць нас быць спагадлівымі, адказнымі і міласэрнымі да саміх сябе і да нашых бліжніх!

Здароўя і Божага благаслаўлення! Хрыстос Уваскрос! Са Святам!

+Алег Буткевіч
Біскуп Віцебскі



## Біскуп Алег Буткевіч асвяціў падмуркі новага касцёла ў Віцебску



Стар. 8



## Памяці святара



Стар. 4

# Папа Францішак на “Анёл Панскі”: Бог не стварыў нас для магілы



**Прапануем поўны пераклад на беларускую мову разважання Святога Айца, якое прагучала з бібліятэкі Апостальскага палаца.**

“Дарагія браты і сёстры, добры дзень! Евангелле Пятай нядзелі Вялікага посту распавядае пра ўваскрасенне Лазара (Ян 11, 1-45), які быў братам Марты і Марыі. Яны былі вельмі блізкімі сябрамі Езуса. Калі Ён прыйшоў у Бэтанію, Лазар ляжаў мёртвы ўжо чатыры дні. Марта выбегла сустрэць Настаўніка і сказала яму: “Пане, калі б Ты быў тут, не памёр бы брат мой” (Ян 11, 21). Езус адказаў ёй: “Уваскрэсне брат твой” (Ян 11, 23) і дадаў: “Я – уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць” (Ян 11, 25). Езус выяўляе сябе як Пан жыцця, як Той, Хто можа даць жыццё нават памерлым. Потым прыйшлі Марыя і іншыя людзі, усе ў слязах, а затым, як гаворыцца ў Евангеллі, Езус “глыбока ўзрушыўся (...) і заплакаў” (Ян 11, 33. 35). З гэтай трывогай у душы Ён пайшоў да магілы, падзякаваў Айцу, Які заўсёды Яго слухае, загадаў адкрыць магілу і гучна закрычаў: “Лазар, выйдзі вонкі!” (Ян 11, 43). І выйшаў Лазар, “з нагамі і рукамі, абвязанымі палатном, а твар ягоны быў абвязаны хусткаю” (Ян 11, 44).

“Тут мы бачым, што Бог ёсць жыццё і дае жыццё, але Ён бярэ на сябе драму смерці. Езус мог пазбегнуць смерці свайго сябра Лазара, але хацеў асабіста перажыць нашы пакуты падчас смерці блізкіх і, перш за ўсё, жадаў паказаць панаванне Бога над смерцю.”

У гэтым евангельскім урыўку мы бачым, што вера чалавека і ўсемагутнасць Божай любові шукаюць адно аднаго і ў рэшце рэшт сустракаюцца. Гэта як вуліца з двухбаковым рухам: чалавечая вера і ўсемагутнасць Божай любові шукаюць адно аднаго і, нарэшце, сустракаюцца. Мы бачым гэта ў крыку Марты і Марыі, а таксама ў нашым: “Калі б Ты быў тут...”. І адказ Бога – гэта не прамова, а Езус: “Я – уваскрасенне і жыццё ... Паверце! Працягвайце верыць пасярод плачу нават тады, калі смерць, здаецца, перамагла. Адсуньце камень з вашага сэрца! Дазвольце Божаму Слову вярнуць жыццё туды, дзе пануе смерць”.

Таксама сёння Езус паўтарае нам: “Адсуньце камень”. Бог не стварыў нас для магілы, ён стварыў нас для прыгожага, добрага і радаснага жыцця. “Але праз зайздрасць д’ябла ў свет увайшла смерць” (Мдр 2, 24), – гаворыцца ў Кнізе Мудрасці, а Езус Хрыстус прыйшоў вызваліць нас з яе няволі.

“Менавіта таму мы закліканыя выдаліць камяні ўсяго, што мае прысмак смерці. Напрыклад, крывадушнасць у веры з’яўляецца смерцю. Дэструктыўная крытыка іншых людзей – гэта смерць. Абраза, паклёп – гэта смерць. Маргіналізацыя бедных – гэта смерць”.

Пан патрабуе, каб мы выдалілі гэтыя камяні з нашага сэрца, і тады жыццё зноў будзе квітнець вакол нас. Хрыстус жыве, і тыя, хто Яго прымае і трымаецца Яго, уступаюць у кантакт з жыццём. Без Хрыста і па-за Хрыстом не толькі жыцця няма, але і мы тонем у смерці.

Уваскрасенне Лазара таксама з’яўляецца знакам адраджэння, якое адбываецца ў верніка праз хрост, праз поўнае ўкараненне ў пасхальную таямніцу Хрыста. У выніку дзеяння і сілы Святога Духа хрысціянін становіцца чалавекам, які працягвае жыццё як новае стварэнне: істота для жыцця, якая імкнецца да жыцця.

Няхай Панна Марыя дапамога нам быць спачувальнымі, як яе Сын Езус, Які асабіста перажывае нашы пакуты. Няхай кожны з нас будзе блізкім да тых, хто знаходзіцца ў цяжкасцях, становячыся для іх адлюстраваннем любові і пяшчоты Бога, якая вызваляе ад смерці і вядзе да перамогі ў жыцці”, – сказаў Папа.

Завяршаючы нядзельную сустрэчу, Францішак заклікаў вернікаў не забывацца маліцца за яго і паабяцаў сваю малітву за кожнага.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Папа Францішак перадаў італьянскім бальніцам дыхальныя апараты

**Пантыфік здзейсніў жэст салідарнасці ў адносінах да жыхароў паўночнаітальянскіх рэгіёнаў, якія пакутуюць ад распаўсюджвання каранавірусу і недахопу медыцынскага абсталявання.**

26 сакавіка Зала Друку Апостальскай Сталіцы праінфармавала, што Святы Айцец дaручыў Апостальскай элемазінарыі перадаць у медыцынскія ўстановы ў рэгіёнах, якія найбольш закранула пандэмія COVID-19, трыццаць дыхальных апаратаў, набытых некалькі дзён таму.

Шпіталі, якія атрымаюць запатрабаванае ва ўмовах барацьбы з каранавірусам абсталяванне, будуць вызначаны ў найбліжэйшы час.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Агульнабеларускую пілігрымку да 100-годдзя з дня нараджэння святога Яна Паўла II перанеслі на восень

5 студзеня на 76-м Надзвычайным пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі было прынята рашэнне правесці агульнабеларускую пілігрымку з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння святога Яна Паўла II.

У сувязі з пандэміяй каранавірусу агульнабеларуская пілігрымка ў Ватыкан шляхам святога Яна Паўла II на святкаванне 100-годдзя з дня яго нараджэння пераносіцца з мая на восень.

Дакладны час яе правядзення і дадатковая інфармацыя будуць пададзеныя пазней.

# Шесть советов, чтобы смотреть онлайн Святую Мессу с пользой

**Карантин и необходимая изоляция этих дней могут послужить хорошей возможностью ежедневно участвовать в Святой Мессе. Хотя большинство из нас сейчас не ходит в церковь, всё же появилось время, чтобы каждый день смотреть трансляции Мессы в Интернете.**

Ещё раз технологии приходят к нам на помощь, хотя логично, что нам немного труднее быть внимательными и набожными. Вот несколько советов, которые помогут вам следить за онлайн-Мессой с большей сосредоточенностью.

1 Лучше не слушать Мессу в одиночестве. Если вы можете, то делайте это со своей семьёй или с кем-то из ваших братьев (сестер) или детей. Единство создаёт силу, и вам будет легче сконцентрироваться. Выберите наиболее подходящую вам по расписанию Мессу и сделайте это одним из семейных моментов дня.

2 Позаботьтесь об обстановке в комнате: вы можете поставить крест или изображение Богородицы рядом с телевизором или монитором компьютера.

3 И костюмы: немаловажно быть хорошо одетым для Мессы. Оставьте пижаму для сна и спортивный костюм для занятий спортом.

4 Участвуйте в Святой Мессе, как если бы вы были в приходе: встаньте, во время чтения Евангелия, встаньте на колени в момент Освящения Даров и т. д. Жесты очень важны.

5 Во время причастия произносите молитву духовного причастия: ту, которую повторял святой Хосе Мария, возможно, она подойдёт и Вам: "Господи, я желаю принять Тебя, с чистотой, смирением и совершенной преданностью, с которыми приняла Тебя Твоя Пресвятая Матерь, с духом и пылом святых" или любую другую.

Месса – лучшее время, чтобы просить Бога о том, чего ты хочешь. Обо всех больных, об усопших, о работниках здравоохранения, о правительстве, о своей семье, о Церкви, о Папе...

6 Не спешите: Месса имеет невероятную ценность, и именно в это время есть много вещей, за которые нужно помолиться. Оставайтесь на несколько минут после Мессы, чтобы попросить Бога обо всех умерших, больных, о медицинском персонале и правительстве и, конечно же, о Церкви, о Папе, о наших епископах и о приходе.

*Catholic-kazakhstan.org*



## Дэкрэт біскупа Алега Буткевіча “Аб парадку набажэнстваў і душпастырскіх мерапрыемстваў падчас пандэміі каранавірусу”



**Шаноўныя святары, кансэкраваныя асобы, дарагія браты і сёстры ў Хрысце!**

У дадатак да ўжо абвешчанай інструкцыі ККББ ад 13.03.2020 г., на падставе Паведамлення Пастаяннай рады ККББ ад 19.03.2020 г., у сувязі з далейшай небяспекай распаўсюджвання каранавірусу пастанаўляю наступнае:

1 Удзяліць дыспенсу ад удзелу ў нядзельных і святочных Святых Імшах асобам, якія маюць сімптомы ВРВІ (падвышаная тэмпература, кашаль, галаўны боль г.д.), і асобам, якія адчуваюць страх, нярэдка панічны, перад заражэннем.

Пры гэтым варта памятаць, што дыспенса не з’яўляецца забаронай удзелу ў набажэнстве ці Св. Імшы, але звальненнем ад абавязку ўдзелу без наступства граху. Разам з тым дыспенса не з’яўляецца звальненнем ад малітвы ўвогуле, наадварот, няхай наша малітва ў гэты час будзе больш інтэнсіўнай і шчырай.

2 Тыя, хто карыстаецца дыспенсай, павінны далучацца да Святой Імшы праз сродкі масавай інфармацыі, напрыклад, праз радыётрансляцыю з мінскага архікатэдральнага касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі (нядзеля, першая праграма Беларускага радыё, 8.15), а таксама праз відэатрансляцыю на інтэрнэт-партале Catholic.by (8.15, 10.00, 11.30, 13.00 і 18.30) або праз іншыя сродкі масавай камунікацыі. Партал Catholic.by прадугледжвае таксама тэлетрансляцыі св. Імшы з мінскай архікатэдры па буднях (7.15, 8.00 і 18.30).

Пры гэтым ёсць магчымасць прымаць духоўную св. Камунію. Святарам неабходна растлумачыць вернікам, як гэта можна зрабіць.

3 Пажадана, каб абрад пахавання адбываўся толькі на могілках пры ўдзеле толькі найбліжэйшых сваякоў. Св. Імша за памерлага цэлебруецца ў той самы дзень або ў іншы – па дамоўленасці з блізкімі памерлага.

4 Кожны дзень у сем’ях ці асабіста ў гадзіну Божай Міласэрнасці а 15.00 маліцца тройчы “Ойча наш…”, “Вітай Марыя”, “Хвала Айцу…” + Вяночак да Божай Міласэрнасці, і (або) а 20.30 святы Ружанец, каб супольна ахінуць усю краіну гэтымі традыцыйнымі для нашага народа малітвамі. Калі па важных прычынах прапанаваны час не адпавядае, то можна ўключыцца ў малітву ў любы іншы момант.

5 Па магчымасці касцёлы павінны быць адчыненыя для індывідуальнай малітвы і па-за гадзінамі Св. Імшы. Святарам неабходна так арганізаваць споведзь у касцёлах і месцах, дзе знаходзяцца хворыя і інваліды, каб кожны мог паяднацца з Богам, Касцёлам і бліжнімі.

6 Структурам Дабрачыннага каталіцкага таварыства “Caritas” па меры магчымасці з захаваннем мераў бяспекі аказваць дапамогу тым, хто мае патрэбу.

7 Усім няўхільна выконваць загады і распараджэнні службаў аховы здароўя і грамадскага парадку.

8 Пробашчам парафій, кіраўнікам іншых структур Каталіцкага Касцёла, а таксама манаскіх супольнасцяў і таварыстваў апостальскага жыцця разважліва падысці да арганізацыі розных евангелізацыйных, катэхетычных і іншых мерапрыемстваў з пункту гледжання пастырскай неабходнасці іх правядзення падчас эпідэміі і разгледзець магчымасць іх адмены або пераняcення на іншы час.

9 Не паддавацца паніцы, якая не з’яўляецца добрым дарадчыкам, але, як належыць людзям веры, даверыцца Міласэрнаму Богу, а таксама лекарам, якія з’яўляюцца інструментамі ў Божых руках, і адказным за захаванне грамадскага парадку.

10 Пададзеныя ў гэтым Дэкрэце пастановы абавязковыя да іх адмены.

Даручаю ўсіх вас апецы Маці Божай Браслаўскай, Святых Язафата Кунцэвіча і Андрэя Баболі з надзеяй на іх заступніцтва перад Богам у прадухіленні гэтай хваробы і ад усяго сэрца благаслаўляю ў імя Айца, + і Сына, і + Духа Святога. Амэн.

**Віцебск, 20 сакавіка 2020.**

**+ Алег Буткевіч,**
**Біскуп Віцебскі**



# Поўны адпуст для хворых з каранавірусам і тых, хто нясе дапамогу

### Дэкрэт Апостальскай Пенітэнцыярыі аб прадастаўленні спецыяльнага адпусту вернікам у цяперашняй пандэмічнай сітуацыі, 20.03.2020 г.

**АПОСТАЛЬСКАЯ ПЕНІТЭНЦЫЯРЫЯ**

**ДЭКРЭТ**

Спецыяльная індульгенцыя (адпуст) удзяляецца вернікам, якія хварэюць на Covid-19, звычайна званай каранавірусам, а таксама медыцынскім работнікам, чальцам іх сем’яў і ўсім, хто апякуецца імі і падтрымлівае іх, хоць бы толькі малітвай.

“Цешцеся з надзеі, ва ўціску будзьце цярплівыя, у малітве – трывалыя” (Рым. 12, 12). Словы, напісаныя Святым Паўлам Супольнасці ў Рыме, гучаць на працягу ўсёй гісторыі Касцёла і накіроўваюць разважанні вернікаў перад любымі пакутамі, хваробамі і бядой.

У сённяшні час усё чалавецтва знаходзіцца пад пагрозай нябачнай і падступнай хваробы, якая моцна ўвайшла ў жыццё кожнага чалавека і адзначаецца дзень за днём пакутлівымі страхамі, новай нявызначанасцю і перш за ўсё шырокімі фізічнымі і маральнымі пакутамі.

Касцёл па прыкладзе свайго Боскага Настаўніка заўсёды меў у сваім сэрцы дапамогу хворым. Як кажа святы Ян Павел II, каштоўнасць чалавечых пакут мае падвойнае значэнне: “Звышнатуральнае, бо бярэ свой пачатак у боскай таямніцы адкуплення свету, а таксама глыбока чалавечае, бо ў ім чалавек знаходзіць сябе, сваю чалавечнасць, сваю годнасць, сваё пакліканне” (Апостальскі Ліст Salvifici doloris, 31).

Таксама і Папа Францішак у апошнія дні выказаў сваю бацькоўскую блізкасць і аднавіў запрашэнне няспынна маліцца за хворых на каранавірус.

Каб усе, хто пакутуе праз Covid-19, якраз у таямніцы гэтых пакутаў змаглі зноў адкрыць для сябе “тую ж самую збаўчую пакуту Хрыста” (Salvifici doloris, 30), Апостальская пенітэнцыярыя ад аўтарытэту вярхоўнага Пантыфіка, даверяючы слову Хрыста Пана і гледзячы ў духу веры на цяперашнюю эпідэмію, якую неабходна перажыць у сэнсе асабістага навяртання, удзяляе дар Індульгенцыі (адпусту) з захаваннем наступных прадпісанняў.

Поўны адпуст даецца вернікам, якія хварэюць на каранавірус і знаходзяцца на каранціне па распараджэнні органаў аховы здароўя ў бальніцах ці ва ўласных дамах, калі на душы не маюць якога-небудзь граху і духоўна далучаюцца праз сродкі масавай інфармацыі да цэлебрацыі Святой Імшы, да малітвы на Святым Ружанцы, пабожнай практыкі Крыжовага Шляху ці іншых формаў пабожнасці. Або калі яны прачытаюць толькі “Сімвал веры”, “Ойча Наш” і якую-небудзь пабожную малітву да Найсвяцейшай Панны Марыі, ахвяруючы гэтае выпрабаванне ў духу веры ў Бога і міласэрнасці ў адносінах да бліжняга з пажаданнем выконваць звычайныя ўмовы (сакрамантальная споведзь, эўхарыстычная камунія і малітва ў інтэнцыях Святога Айца), як толькі гэта стане магчымым для іх.

Медыцынскія работнікі, чальцы іх сем’яў і тыя, хто па прыкладзе Добрага самараніна, падвяргаючы сябе рызыцы заражэння, аказваюць дапамогу хворым на каранавірус па словах Боскага Адкупіцеля, што “ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх” (Ян 15, 13), атрымліваюць той самы дар поўнага адпусту на тых жа ўмовах.

Больш за тое, гэтая Апостальская Пенітэнцыярыя ахвотна ўдзяляе Поўны адпуст на тых жа ўмовах з прычыны цяперашняй сусветнай эпідэміі нават тым вернікам, якія адведваюць Найсвяцейшы Сакрамант або робяць Эўхарыстычную адарацыю, або за чытанне Святога Пісання на працягу не менш чым паўгадзіны, або за малітву на Святым Ружанцы, або за пабожнае выкананне Крыжовага Шляху, або за малітву Вяночкам да Божай Міласэрнасці з просьбай да Усемагутнага Бога спыніць эпідэмію, даць палёгку тым, хто пакутуе, а вечнае збаўленне тым, каго Пан паклікаў да сябе.

Касцёл моліцца за тых, хто не можа прыняць сакрамант Намашчэння хворых і Віятыка, даручаючы Божай Міласэрнасці ўсіх і кожнага сілай еднасці святых, і дае вернікам поўны адпуст у момант смерці пры ўмове, калі яны да гэтага належным чынам падрыхтаваныя і калі яны прамаўлялі некаторыя малітвы падчас свайго жыцця (у гэтым выпадку Касцёл дапаўняе тры неабходныя ўмовы). Каб атрымаць гэты адпуст, рэкамендуецца выкарыстанне ўкрыжавання або крыжа (пар. Enchiridion indulgentiarum, n.12).

Найсвяцейшая Панна Марыя, Маці Божая і Касцёла, Аздараўленне хворых і Дапамога хрысціянаў, Апякунка наша! Дапамажы пацярпеламу чалавецтву, адхілі ад нас зло гэтай пандэміі і здабудзь усё добрае, неабходнае для нашага збаўлення і асвячэння!

Гэты Дэкрэт дзейнічае, нягледзячы на якія-небудзь адваротныя палажэнні.

Дадзены ў Рыме, у месцы знаходжання Апостальскай Пенітэнцыярыі,

19 сакавіка 2020 года.

**Маура – Кардынал Пячэнцы, пенітэнцыярый.**
**Кшыштаф Нікель – рэгент.**

*Пераклаў*
***кс. Аляксей Ляшко***

# У Італіі ў касцёле нельга цэлебраваць Імшу з вернікамі. Але хто сказаў, што на даху нельга?

**Для жыхароў італьянскага горада Неапаль, якія не могуць удзельнічаць у Імшы ў касцёлах праз эпідэмію каранавірусу, кс. Франчэска Гравіна (Francesco Gravino), парафіяльны святар адной з мясцовых парафій, прыдумаў нетыповае рашэнне гэтай праблемы.**



Святар падрыхтаваў усё неабходнае для правядзення св. Імшы, прынёс усё на дах касцёла, узяў мікрафон і дынамікі і адслужыў Літургію, якую пачулі вернікі парафіі з балконаў сваіх дамоў.

"Мае парафіяне адказалі з захапленнем. Гэта быў просты спосаб людзям убачыць, што Касцёл побач. Я павінен сказаць праўду, што ўсё нарадзілася выпадкова", – тлумачыць кс. Франчэска.

Усё пачалося ў сераду, 18 сакавіка, калі Папа Францішак запрасіў хрысціян маліцца на ружанцы ва ўрачыстасць св. Юзафа. Ксёндз Гравіна вырашыў усталяваць калонкі на даху касцёла, каб усе маглі слухаць трансляцыю з TV2000. Шмат людзей выйшла на свае балконы і вельмі пазітыўна адрэагавала. Святар здзівіўся з адказу вернікаў. Ён таксама запрасіў іх да малітвы "Анёл Панскі". Тады прыйшла ідэя адправіць Крыжовы шлях. А потым святая Імша ў нядзелю. Вернікі знаходзяцца на балконах, таму захоўваецца бяспечная адлегласць. Для тых, хто не мог прысутнічаць на Імшы на балконе, кс. Франчэска падзяліўся трансляцыяй у Facebook з дапамогай мабільнага тэлефона.

Здымкі з Крыжом, які дамінуе сярод будынкаў Неапаля, распаўсюдзіліся па ўсім свеце.

– Крыж, які ўзвышаецца на дахах, – гэта сімвал, які дазваляе лёгка зразумець, што Езус ніколі не пакідае нас саміх. Нават у гэтай сітуацыі Ён суправаджае нас, і зараз людзям трэба нешта, што дае сілы і надзею, – кажа а. Гравіна. – Мы хацелі, каб людзі адчувалі, што мы побач. Мы заўсёды молімся за лекараў і валанцёраў, якія забяспечваюць працу сталовых для бяздомных. І потым таксама молімся за тых, хто страціў працу і непакоіцца, бо не ведае, як задаволіць патрэбы сваёй сям'і.

Кс. Франчэска падкрэслівае, што асабліва ў такія часы патрэбная вера. Таму што кожны, хто верыць, ведае, што гісторыя, нягледзячы на ўсе цяжкасці, знаходзіцца ў руках Бога. Толькі Ён можа пераўтварыць зло ў нешта станоўчае. "Мне здаецца, што людзі зноў адкрываюць для сябе каштоўнасці, пра якія забыліся ў веры сваіх штодзённых абавязкаў", – адзначае святар.

А ў наступную нядзелю? "У спрыяльнае надвор'е мы вернемся на дах святыні", – кажа кс. Франчэска, але ён таксама не выганяе нікога на холад. Калі пашчасціць на добрае надвор'е, Імша будзе на даху, бо людзі вельмі гэтага патрабуюць.

*Паводле gosc.pl, фота napolipress/REX / East News*
*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***

## У Італіі святар памёр ад каранавірусу, аддаўшы свой апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх маладзейшаму пацыенту



**Дон Джузэпэ Бэрардэллі, дэкан Казніга ў Ламбардыі, памёр ад каранавірусу, адмовіўшыся ад апарату штучнай вентыляцыі лёгкіх на карысць больш маладога пацыента.**

Гісторыю святара, які аддаў жыццё за бліжняга, распавёў 23 сакавіка італьянскі сайт Araberara.it. 72-гадовы дон Джузэпэ ўжо пэўны час меў праблемы са здароўем, праз што павінен быў неўзабаве завяршыць сваё служэнне ў якасці дэкана. Аднак яно закончылася раней, паколькі святар, як і многія яго суайчыннікі, заразіўся COVID-19 і трапіў у шпіталь у Лавэрэ, што непадалёку ад Бергама.

Вернікі ўзгадваюць свайго душпастыра як чалавека адкрытага, светлага і простага, адданага служэнню і здольнага арганізатара.

Вызначаючыся вялікай жыццёвай сціпласцю, ён разам з тым умеў знаходзіць сродкі на аднаўленне святынь і на пабудову новага араторыя, што стала яго галоўнай справай.

Даведаўшыся пра тое, што іх пробашч і дэкан трапіў у бяду, вернікі парафіі на ўласныя сродкі набылі апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх, жыццёва неабходны ў такіх выпадках. Аднак дон Джузэпэ свядома і добраахвотна адмовіўся ад гэтага дару, хоць ён яму быў так патрэбны, і перадаў апарат маладзейшаму пацыенту. Без неабходнай медыцынскай прылады святар неўзабаве памёр у шпіталі.

Гэты жэст самаахвярнай любові да бліжняга глыбока крануў медперсанал клінікі, які ў складанай сітуацыі змагаецца за жыццё людзей, робячы для гэтага ўсё магчымае ва ўмовах недахопу лекаў і неабходнага абсталявання.

"Ён быў святаром, які выслухоўваў усіх, які ўмеў слухаць. Хто б да яго ні звяртаўся, ведаў, што можа разлічваць на яго дапамогу", – так узгадвае яго Кляра Полі, былая кіраўніца мясцовай адміністрацыі Ф'ёрана, дзе дон Джузэпэ Бэрардэллі доўгі час быў пробашчам. Жанчына з хваляваннем кажа: "Гэта быў вялікі чалавек, – і з усмешкаю дадае: – Я запомніла яго на старэнькім матацыкле Guzzi, які ён вельмі любіў. Пры сустрэчы ён заўжды быў вясёлы і поўны аптымізму. Ён дарыў спакой і радасць нашым супольнасцям".

На заканчэнне спадарыня Полі кажа: "Яго адыход – гэта „да пабачэння". Ён не пакінуў нас у самоце і зверху чувае над намі. Ён і па аблоках лётае на сваім матацыкле, і хто ведае, колькі праектаў там ажыццяўляе, таксама і для нас..."

Журналісты каталіцкага інфармацыйнага агенцтва KAI адзначаюць, што італьянскія карыстальнікі сеціва ў сваіх каментарах параўноўваюць самаахвярны ўчынак дона Джузэпэ Бэрардэллі з подзвігам любові святога Максімільяна Марыі Кольбэ, які аддаў сваё жыццё ў канцэнтрацыйным лагеры замест іншага асуджанага.

*Catholic.by*

# Назаўжды ў памяці вернікаў

**9 мая 2012 года ва ўзросце 57 гадоў памёр ксёндз Уладас Пятрайціс.**

Хочацца ўзгадаць Святара, якога мы ведалі і які не шкадаваў свайго часу, сваіх сілаў і ўменняў, каб служыць Богу, Касцёлу і людзям, да якіх быў пасланы.

У памяці вернікаў ксёндз Уладас Пятрайціс застанецца чалавекам шчырай дабрыні, які адзначаўся простасцю, адкрытасцю і сардэчнай адданасцю справе Касцёла на Мёршчыне, а таксама ў Слабодцы і Іказні Браслаўскага раёна.

Парафіяне памятаюць яго як стараннага, адважнага, мудрага, адданага Касцёлу святара. Гэта быў святар малітвы: глыбокай, пабожнай, прыгожай. Памятаем, з амбона ксёндз гаварыў ясна і дакладна, а казанні яго былі прасякнуты верай і духам. Мы слухалі свайго Пастыра вельмі засяроджана, бо ў яго заўсёды было штосьці важнае, каб перадаць нам. Яго энергетыка зачароўвала парафіян.

Ксёндз Уладас Пятрайціс быў уважлівы да ўсіх. Ён памятаў пра кожнага чалавека, нават пра тых, хто быў у яго вельмі даўно. Ніколі не дзяліў людзей, і ўсе былі для яго роўныя. Ён аб'ядноўваў вернікаў.

Ксёндз Уладас меў асаблівае пачуццё гумару – і да сябе, і да тых, хто апынаўся побач.

Гэта быў святар незвычайны. Ён першым стаў праводзіць Імшу па-беларуску, што ўсім было зразумела. Усіх людзей паважаў і цаніў. Пра сябе ён казаў вельмі сціпла, не скардзіўся – ні на абставіны, ні на хваробы. Заўжды сустракаў вернікаў са шчырай і добразычлівай усмешкай, таму здавалася, быццам ён не меў ніякіх цяжкасцяў у жыцці, хоць цярпенне і накрэсліла свае рысы на твары.

Ксёндз заўсёды спяшаўся. Спяшаўся жыць, працаваць, служыць Богу і людзям.

У гэтым годзе, 20 студзеня, адзначалася 65-годдзе з дня нараджэння айца Уладаса Пятрайціса. Бог даў яму кароткае жыццё, але ён меў шмат талентаў, якія выкарыстоўваў, каб весці людзей да Бога.

Для сваіх парафіян ксёндз назаўсёды застанецца ўзорам сапраўднага душпастыра. Такім ён быў і такім застаўся ў памяці.

Восем гадоў мінула, а ўспаміны пра ксяндза Уладаса Пятрайціса заўсёды цёплыя, мы прыгадваем яго з вялікай удзячнасцю.

Святар пахаваны каля касцёла ў Мёрах. Кожны, хто наведвае святыню, мае магчымасць падысці да яго магілы і памаліцца. А на магіле часта гараць зніцы, ляжаць кветкі.

Мы давяраем свае малітвы і цярпенні ў інтэнцыі душы памерлага ксяндза.

Вечны адпачынак дай Яму, Пане...

*Ад імя вернікаў,*
***Алена Сакалоўская***

# Ці можна памагаць бацькам па гаспадарцы ў нядзелю?

*"Хвала Хрысту! У мяне такое пытанне пра працу ў нядзелю. Я рэдка прыязджаю ў вёску да бацькоў, і часам здараецца, што ёсць неабходнасць працы ў нядзелю. Раніцай мы ўсёй сям'ёй ідзём у касцёл. А пасля Імшы я хачу дапамагчы бацькам па гаспадарцы. Ці мушу я з гэтага спавядацца? Дзякуй за адказ.*

*Наталля"*

– Паважаная Наталля! Дзякую за пытанне, якое, магчыма, цікавіць шмат каго з вернікаў! Яно закранае некалькі вымярэнняў маральнага жыцця хрысціяніна, які выражае сябе, між іншым, праз працу, адпаведнае перажыванне нядзелі, урачыстасцяў і святочных дзён, а перадусім праз штодзённыя маральныя выбары, здзейсненыя ў сумленні. Менавіта правільна выхаванае, праўдзівае і праведнае сумленне дапамагае чалавечай асобе належным чынам пазнаваць Божую волю і жыць паводле яе.

## Святкаванне нядзелі

Праца, святкаванне і адпачынак цесна ўзаемазвязаныя як у рэлігійным, так і агульначалавечым вымярэнні. Народная мудрасць, якая ў сваю чаргу ёсць выражэннем натуральнага закону і здаровай традыцыі, кажа, што той, хто ўмее адпачываць, умее і працаваць, і наадварот. Мае бацькі, якіх фарміравала хрысціянская вера і традыцыя, часта паўтаралі, што чалавек, які шануе Бога, і працуе, і адпачывае дзеля Яго славы.

У Святым Пісанні неаднойчы гаворыцца пра волю Бога адносна працы і адпачынку. Ужо ў першай кнізе Біблії Бог даў чалавеку наказ працаваць. Сёмы ж дзень, у які адпачыў, блаславіў і ўчыніў яго святым (пар. Быц 1 - 2). Адпачынак Бога ў сёмы дзень нельга разглядаць толькі ў катэгорыі заканчэння справы стварэння, але як захапленне ўсім учыненым (пар. Ян Павел ІІ, Dies Domini, 11). Такім чынам, перажыванне нядзелі – гэта не проста ўстрыманне ад працы, а сузіранне Бога як галоўнай крыніцы жыцця і ўсякай дзейнасці чалавека.

У часы Новага Запавету, ад хрысціянскай старажытнасці, нядзеля лічылася асаблівым і важным днём культу ўваскрослага Езуса Хрыста. Паколькі да часоў Канстанціна Вялікага нядзеля была працоўным днём, то хрысціяне вымушаны былі збірацца для супольнай цэлебрацыі і малітвы перад узыходам сонца. Пасля прызнання Міланскім эдыктам рэлігійнай свабоды хрысціяне атрымалі магчымасць адкрыта абвяшчаць веру, маліцца і належным чынам святкаваць нядзелю.

Пра ўшанаванне і перажыванне нядзелі Катэхізіс Каталіцкага Касцёла піша ў нумарах 2168 – 2195. Нумар 2185 кажа, што "ў нядзелю і святочныя дні вернікі павінны ўстрымацца ад працаў і заняткаў, якія перашкаджаюць аддаваць належную пашану Богу, перажываць уласцівую для дня Пана радасць, здзяйсняць учынкі міласэрнасці і адпачываць як духоўна, так фізічна". Касцёл вучыць таксама, што "дапускаюцца дзеянні, звязаныя з сямейнымі абавязкамі або з паслугаю дзеля значнай грамадскай карысці, калі толькі гэта не вядзе да шкодных звычак адносна святкавання нядзелі, сямейнага жыцця і здароўя" (пар. Кампендый Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, 453). Дарэчы, кампендый даступны па адрасе http://catholic.by/2/libr/homilies/104139-kampendyj.html – ён можа дапамагчы вернікам адказаць на шматлікія пытанні, а таксама пашырыць рэлігійныя веды.

Хтосьці мог бы памылкова меркаваць, што дзеля ўшанавання Бога ў нядзелю дастаткова прыняць удзел у святой Імшы, найлепш з самай раніцы, а пазней заняцца чым заўгодна. Нядзеля – гэта святы дзень, дзень адпачынку і аднаўлення духоўных і фізічных сіл, сустрэчы з сям'ёй ды блізкімі людзьмі і ўзрастання ў хрысціянскай любові ва ўсіх яе вымярэннях, дзень яднання з Богам і бліжнімі. Вернік, які прагне па-сапраўднаму камуніі з Богам і паглыблення свайго духоўнага жыцця, сам будзе імкнуцца ўстрымацца ў нядзелю ад усяго, што не спрыяе гэтай мэце.

## Дапамога бацькам

Дапамога бацькам у гаспадарцы – гэта клопат пра іх, які вынікае з натуральнага права. Гэтаму вучыць таксама Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў разважаннях пра чацвёртую запаведзь: "Адносна бацькоў дзеці абавязаны выказваць пашану (сыноўнюю любоў), удзячнасць, пакору і паслухмянасць, садзейнічаючы такім чынам, а таксама праз добрыя адносіны паміж братамі і сёстрамі, узрастанню гармоніі і святасці ўсяго сямейнага жыцця. У выпадку, калі бацькі апынуліся ў беднасці, хваробе, адзіноце, старасці, дарослыя дзеці павінны дапамагаць ім маральна і матэрыяльна" (Кампендый Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, 459). Добра разумеем, што калі мы дапамагаем бацькам, то такім чынам славім таксама Бога, Які нам іх даў і даверыў у іх слабасці і старасці. Дзеці імкнуцца бачыць тыя сферы, у якіх бацькам або камусьці з родных патрэбная дапамога. Са свайго боку, бацькі хочуць як мага даўжэй дапамагаць сваім дзецям і ўнукам як матэрыяльна, так духоўна (вельмі важнай дапамогай ёсць малітва), што заўсёды варта заўважаць і быць за гэта ўдзячнымі. Асаблівым чынам бацькі клапоцяцца пра гаспадарку, якая "корміць" іх саміх і іх родных. Гэта ў першую чаргу датычыць жыхароў вёсак ці аграгарадкоў, аднак не абмяжоўваецца толькі імі.

## Праца ў нядзелю

Вышэй было сказана, што ў нядзелю і святочныя дні вернікі павінны ўстрымацца ад працаў і заняткаў, каб гэты дзень прысвяціць сустрэчы з Богам і адпачынку ў коле сям'і. Аднак здараюцца сітуацыі, калі сапраўды немагчыма зрабіць усё у будныя дні, бо, напрыклад, дзеці ці ўнукі не могуць ніяк прыехаць да любых мамы і таты або бабулі і дзядулі ў іншы дзень, а яны самі хворыя ці ўжо не маюць сілы працаваць. У такім выпадку можна лічыць, што праца па гаспадарцы ў нядзелю – гэта неабходнасць (няма іншых магчымасцей, напрыклад, не хапае сродкаў, каб наняць кагосьці на працягу тыдня або няма каго наняць). Аднак нельга апраўдаць парушэнне трэцяй Божай запаведзі, калі хтосьці адкладваў некаторыя працы менавіта на нядзелю, хоць можа зрабіць гэта ў будні дзень. У такім выпадку трэба паспавядацца, каб з чыстым сэрцам прыняць Святую Камунію.

Варта памятаць і пра тое, што грахом ёсць не толькі неабавязковая праца ў нядзелю, але і лянота наогул. Застаецца таксама нявырашаным пытанне пра неабходнасць і мэтазгоднасць трымаць гаспадарку чалавеку, які сам не ўстане яе даглядаць. У асобных выпадках такі стан рэчаў можна б лічыць таксама грахом супраць бацькоў і супраць дзяцей. Разумею, што асабліва старэйшым людзям складана прызнаць, што надышоў час адпачынку. Гэта яшчэ адна праблема нашага маральнага жыцця, якую разважліва трэба вырашаць усёй сям'і.



Наталля пытаецца, ці павінна спавядацца з дапамогі бацькам у нядзелю. Навучанне Касцёла, хоць яно зразумелае і змястоўнае, але не разглядае ўсе магчымыя жыццёвыя выпадкі. Касцельны заканадаўца часта пакідае вернікам прастору для асабістага разгляду дадзенай сітуацыі. Такі стан рэчаў вынікае з мноства абставін, якія нясе жыццё. Каталік заўсёды пакліканы разглядаць свае ўчынкі з пункту погляду на іх прадмет, мэту і акалічнасці. Калі ўсе тры элементы чалавечага чыну добрыя, тады і чын лічыцца добрым. Бывае, аднак, і так, што прадмет чыну добры (напрыклад, праца, дапамога іншым), але акалічнасці памяншаюць яго маральную вартасць (скажам, неабавязковая праца ў нядзелю). Найгорш, калі маральная вартасць чыну знішчаецца або памяншаецца мэтаю (хтосьці дапамагае бліжняму на паказ або робіць нешта, каб праявіць непашану да веры ці асобы). Удзел у святой Імшы ў нядзелю не з'яўляецца поўным выкананнем трэцяй запаведзі. Хачу ў гэтым месцы дадаць, што згодна з навучаннем Касцёла, вернік выконвае наказ удзелу ў нядзельнай святой Імшы, калі ўдзельнічае ў ёй ці непасрэдна ў святочны дзень, ці напярэдадні вечарам (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1248, § 1). Магу з упэўненасцю сказаць, што варта пазбягаць працы ў нядзелю, і калі б хтосьці пры магчымасці дапамагаць бацькам па будніх спецыяльна адкладваў заняткі па гаспадарцы на нядзелю, то павінен з гэтага спавядацца. Калі ж інакш не атрымліваецца, а працу неабходна выканаць дзеля любові родных, то гэта не будзе цяжкі грэх.

Вельмі прыгожае і захапляльнае сведчанне пра святкаванне нядзелі даў Святы Айцец Бэнэдыкт XVI. Узгадваючы сваё дзяцінства, Папа сказаў, што нядзеля ў яго сям'і заўсёды была прынцыповай справай: "Нядзеля распачыналася ўжо ў суботу пасля поўдня. Бацька чытаў нам нядзельныя літургічныя тэксты з вельмі папулярнай на той час кніжкі, у якой яны тлумачыліся (...). На наступны дзень мы ішлі на святую Імшу (...), а пазней у хаце важны быў, безумоўна, супольны вялікі абед. Мы таксама шмат спявалі разам (...). Спявала ўся сям'я. Гэта незабыўныя моманты. Пазней мы абавязкова шпацыравалі. Мы жылі недалёка ад лесу, і шпацыр па лесе быў прыгожы: прыгоды, гульні і г. д. Адным словам, ядналі нас адно сэрца і адна думка, шмат супольных перажыванняў. Нават у вельмі цяжкія часы вайны (...) панавала між намі ўзаемная любоў, радасць праз простыя рэчы" (пар. Бэнэдыкт XVI, Пастырскі візіт у Міланскай архідыяцэзіі і VII сусветная сустрэча сем'яў (1 – 3 чэрвеня 2012 г.), *http://w2.vatican.va/content/benedict-xvi/it/speeches/2012/june/documents/hf_ben-xvi_spe_20120602_festa-testimonianze.html*).

Святкаванне нядзелі ва ўсіх вымярэннях, асабліва ў сям'і – гэта не толькі адказ на Божы заклік, але і свайго кшталту праўдзівая школа хрысціянскага жыцця. Спадзяюся, што адказ на пастаўленае пытанне дапаможа Наталлі ды іншым чытачам "Каталіцкага Весніка" ў вырашэнні падобных пытанняў.

*З павагай,*
***а. Аркадзь Куляха OCD***

# Эпидемия страха: сохраняем психологическое равновесие

**На сегодняшний день, думаю, не осталось человека, который бы не интересовался и не отслеживал информацию об эпидемиологической ситуации как в мире, так и у нас в стране.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Последние месяцы вся наша жизнь вращается вокруг распространения короновирусной инфекции. И как вирус передается от человека к человеку, также и в интернете от пользователя к пользователю передаются и усиливаются такие эмоциональные реакции, как страх, тревога, паника и даже панические атаки. В связи с этим возникают резонные вопросы: "Как быть?" и "Что делать?"

Для начала стоит сказать, что паника и как следствие паническая атака – это острое состояние, реакция в виде высокого уровня стресса на какую-то вызвавшую сильные переживания ситуацию. И это кратковременное явление. О них я расскажу какнибудь в другой раз. Сегодня же мы поговорим о тревоге и страхе.

Итак, страх – это внутреннее состояние нервного возбуждения, обусловленное грозящей или предполагаемой угрозой или опасностью. Это одна из базовых эмоций Тревога, в свою очередь, – это отрицательно окрашенная эмоция, выражающая чувство неопределенности, труднопреодолимые предчувствия. Во время тревоги человек мобилизует всю свою психическую энергию для того, чтобы бороться с потенциально опасной ситуацией, которая необязательно может наступить. Иначе говоря, испытывая тревогу, человек копается в памяти и находит там примеры опасных событий, а затем проецирует их на ближайшее будущее.

С точки зрения психологии, страх может иметь как положительную, так и отрицательную окраску.

## Чем вреден страх?

Сочетание "длительный страх + стресс" всегда оказывает более пагубное влияние на здоровье, чем какой-либо вирус или инфекция. Дело все в том, что продолжительные отрицательные эмоции и психологическое напряжение, с ними связанное, провоцируют возникновение психосоматических заболеваний, приводят к обострению хронических заболеваний и увеличивают возможность заболеть. Помимо физиологии страдает еще и психика, могут развиться различные фобии и неврозы. В свое время основоположник учения о стрессе Ганс Селье доказал, что в период стресса, а именно в фазе "истощения" сопротивляемость организма различным инфекциям значительно снижается, вплоть до критических значений. Из открытия, которое сделал Г. Селье, следует, что чем дольше мы боимся, тем больше становимся беззащитными и своего рода "мишенями" перед инфекциями и неврозами.

## Чем полезен страх?

Польза страха состоит в его изначальной функции: защищать человека от опасности через активацию инстинкта самосохранения. Только на первый взгляд эта эмоция бесполезна, но возникла она, чтобы оградить человека от окружающих неблагоприятных внешних факторов и угроз. Страх – не наш враг, он наш друг. Например, без страха мы бы ходили в магазин через окно на третьем этаже, перебегали дорогу на красный свет и много еще чего делали из того, что наносило бы нам физический вред.

К слову, в опасных ситуациях в головном мозге вырабатывается гормон серотонин, который оказывает позитивное влияние на тонус мышц. А прилив адреналина в кровь становится причиной того, что человек начинает соображать и действовать быстрее и слаженнее. Но с последним моментом, конечно, можно спорить, так как это случается не всегда и не у всех. Все зависит от индивидуального реагирования.

Но есть и то, что нас объединяет. У нашего организма есть три природных механизма, три типа реакции на опасность. Условно их можно назвать как "БЕЙ", "ЗАМРИ", "БЕГИ".

**Реакция "Бей"** чаще проявляется в виде агрессии, злости, несдержанности. Чаще всего речь идет не о физическом воздействии. Например, это могут быть гневные комментарии в социальных сетях, обвинения в бездействии относительно конкретных ситуаций.



**Реакция "Беги"** – это проявления поспешности в действиях. Например, срочно забрать детей из школы/детского сада, уехать в деревню и так далее. В общем, сделать все, чтобы "убежать" от опасности. Также ситуация, когда человек бежит в магазин и все скупает, – это тоже может быть проявлением реакции "беги": я не понимаю, что я делаю, но я побежал и вместе со всеми скупил все, что увидел.

**Реакция "Замри"** – это когда человек, находясь в сильной тревоге, не понимает, что делать, и бездействует. Он как бы спрятался от угрозы и надеется, что она пройдет мимо него.

Поэтому полезно знать и понимать, что проявление этих реакций – показатель сильной тревоги. Относитесь к подобному поведению вокруг себя с соответствующим пониманием.

Итак, мы с вами определили, что страх – абсолютно нормальная и здоровая реакция организма на состояние опасности и неопределенности.

Но, помня, что длительное переживание чувства страха и тревоги истощает нас и делает уязвимыми, давайте определим, что можно и нужно сделать, чтобы реже испытывать эти эмоции, особенно в сложившейся эпидемиологической обстановке.

Итак, первое, что можно сделать, это **ограничить пользование информационными интернет-ресурсами.** На данный момент СМИ больше разводят паники, нежели способствуют информированию людей. Всемирная организация здравоохранения ввела даже специальный термин – инфодемия ("информационная эпидемия") в ситуации, когда речь идет о подмене правдивой информации недостоверной (фейковой). Поэтому если вы видите, что чтение новостей об эпидемии вызывает у вас страх и излишнюю тревогу, перестаньте это делать. Если же вы не можете остаться в стороне от информационного поля, то пользуйтесь новостными порталами, которым доверяете, относитесь критично и избирательно к информации.

**Невзирая на страх, соблюдайте привычный образ жизни, находитесь в движении.** Страх держит внимание человеческого разума на негативном развитии событий, а действия переориентируют нас на положительный исход. Принимая какое-либо решение, мы сосредотачиваемся на том, как замечательно будет, когда мы что-либо преодолеем или получим хороший результат. Это позволяет положительно настроиться, и главное наполнить ум приятными сценариями развития событий, где не останется места для сомнений и боязни. Даже если вы находитесь на карантине или просто ограничили свои социальные контакты, составьте список дел на день и следуйте этому списку. Поверьте, перечень дел может быть довольно внушительным, все зависит лишь от вашей фантазии, целеустремленности, ну и, конечно, работоспособности. Так что смелей! Постарайтесь также придерживаться привычного распорядка и режима дня. Это даст ощущение стабильности и того, что ситуация под контролем, а значит и поводов для страха нет.

С чувством страха поможет справиться момент **взятия частичной ответственности за ситуацию с короновирусной инфекцией на себя.** Что я имею в виду?

Мы, безусловно, не можем глобально изменить ситуацию с пандемией, но мы можем взять часть ответственности на себя хотя бы в том, что будем соблюдать адекватные меры предосторожности, а именно ограничим социальные контакты, не будем посещать многолюдных мест, но будем мыть и дезинфицировать руки, соблюдать дистанцию между людьми. Согласитесь, все это вполне по силам каждому из нас. А осознание включенности в решение проблемы мирового уровня не оставит шансов для развития страха.

Если вас "накрыла" волна тревоги или страха, **попытайтесь восстановить свое спокойное, размеренное дыхание**, так как быстрое дыхание является первым моментом, который запускает тревожные симптомы.

Если вы намеренно выдыхаете дольше, чем вдыхаете, то тело успокаивается. Поэтому если начинаете ощущать страх, то:

- сфокусируйтесь на дыхании;
- сделайте вдох (досчитайте до семи);
- сделайте выдох (досчитайте до одиннадцати).

Если вы будете делать это минуту или около того, то быстро успокоитесь. Эта техника называется "дыханием 7/11", но, разумеется, эти числа весьма условны: главное, чтобы выдох был длиннее вдоха.

**Не стоит преувеличивать.** Страх, тревога и беспокойство рождаются, когда мы представляем себе худшее. Тревога возникает как реакция на негативные мысли, когда каждое событие рассматривается как потенциально опасное. Если наш мозг воспринимает что-то как пугающее и неизвестное, он преувеличивает степень риска, создает ощущение, что подобное действительно произойдет с вами. Помните фразу: "У страха глаза велики", как раз об этом. Подобный феномен – часть биологически встроенной реакции "бей" или "беги", о которой мы уже говорили выше. Внимание привлекает большое и страшное. А тому, что привычно, но потенциально опасно, придается гораздо меньше значения. Таким образом, вспышка нового вируса кажется более страшной, чем любого другого, уже известного.

**При чувстве страха можно использовать еще одну технику – AWARE**

Американский психиатр и основатель когнитивной психотерапии Айрон Бек в свое время предложил технику, в которой вместо "боевого", контролирующего отношения к тревоге и страху фокусируется внимание на "приемлемом" отношении к ней. По мнению автора, как только вы позволите себе чувствовать беспокойство и будете знать, что преувеличиваете угрозу и опасность, интенсивность страха значительно снизится.

Техника AWARE расшифровывается так:

Accept (признание)
Watch (наблюдение)
Act (действие)
Repeat (повторение)
Expect (ожидание реалистичного улучшения)

**Поэтому, если вам страшно, сделайте следующее:**

- Примите страх или тревогу. Не пытайтесь бороться с ними.
- Наблюдайте за страхом. Не стоит делать никаких выводов, просто попытайтесь осознать, что происходит с психикой и организмом.

⇒



⇒ ● Действуйте так, как будто все нормально. Продолжайте говорить и вести себя так, словно ничего не случилось. Это посылает мощный сигнал вашему подсознанию, что его чрезмерная реакция на самом деле не нужна, потому что ничего необычного не происходит.

● При необходимости повторите описанные выше шаги.

● Ожидайте лучшего. Одним из величайших чувств является осознание того, что вы можете контролировать страх гораздо больше, чем считалось возможным.

Как следует из названия техники (в переводе "Осведомленность"), она помогает привести себя в осознанное состояние.

**Еще один способ защитить себя от страха – пресекать разговоры, которые вызывают у вас тревогу и страх.** Понятно, что сейчас многие обсуждают тему пандемии – на работе, в школе, в транспорте, в личных переписках. Все забрасывают друг друга фактами, но если вы чувствуете, что вам это тяжело слушать, останавливайте собеседника, не стесняйтесь и не бойтесь обидеть. Скажите, что вы устали от этой темы и не хотите это обсуждать. Некоторые разговоры действительно очень сильно действуют на нервную систему, особенно если у собеседника нет фактов, но есть куча эмоций, которыми он начинает заражать других, пересказывая что-то, услышанное от третьих лиц.

**Увеличивайте количество тем для разговоров**. Вспомните, когда в нашей жизни нет какого-то пугающего фактора, мы начинаем смотреть на то, что происходит за окном (а там, кстати, весна!), смеемся над какими-то мелочами, обсуждаем с друзьями спектакль, фильм и т.д. Ищите темы для общения, которые не будут вас пугать. Если мы сможем даже в ситуации эпидемии увидеть и другие вещи, а не только те, которые нас в нее привели, – это уже один из признаков, что мы справились с обстоятельствами. Конечно, мы продолжаем находиться в этой ситуации, но она перестает ломать всю нашу жизнь.

Надо понимать, что мы не сможем "выключить" наши с вами эмоции и эмоциональные реакции, они будут продолжать сменять друг друга, потому что ситуация все время меняется. Поэтому надо находить то, что поможет вам справляться с этой переменчивостью. Например, гулять, пересматривать фотографии из путешествий, смотреть фильмы, слушать приятную музыку, думать о приятном, строить планы, например, о том, как вы будете высаживать рассаду у себя на даче или будете делать ремонт или… Да все равно, о чем вы будете думать, главное чтобы это были приятные моменты. В общем, прибегайте ко всем способам, которыми можно отвлечься. Это позволит увидеть, что жизнь не крутится только вокруг физиологии, которая возникает в ситуации тревоги и страха.

> **"Некоторые разговоры действительно очень сильно действуют на нервную систему, особенно если у собеседника нет фактов, но есть куча эмоций, которыми он начинает заражать других, пересказывая что-то, услышанное от третьих лиц."**

В завершении скажу лишь одно. Нужно знать и понимать, что жизнь будет продолжаться дальше! Да, может быть все не будет как раньше, но будет сама жизнь. На кольце у царя Соломона была фраза: "Все пройдет,… и это тоже". Любое событие в жизни не может и не будет длиться вечно. На смену темной полосе всегда придет светлая. Помните об этом.

Я желаю вам здоровья и спокойствия. Берегите себя.





# Велікодны тэст



**Вялікдзень з'яўляецца самай вялікай хрысціянскай урачыстасцю. Яго называюць "святам святаў". У гэты дзень Хрыстус сваёю крывёю адкупіў увесь свет. Праверце свае веды ў новым святочным тэсце "Каталіцкага Весніка".**

**1** Яйка – гэта сімвал…



**А.** Цярпення
**Б.** Будучыні
**В.** Жыцця

**2** Калі асвячаюцца стравы на Велікодны стол?



**А.** У Пальмавую нядзелю
**Б.** У Вялікую пятніцу
**В.** У Вялікую суботу

**3** Свечка, якая сімвалізуе Уваскрослага Хрыста, называецца:



**А.** Раратняя
**Б.** Пасхал
**В.** Грамнічная

**4** Як называецца старажытны гімн, што спяваецца ў Велікодную ноч?



**А.** Экзультэт
**Б.** Te Deum
**В.** Магутны Божа

**5** Імша, якая адпраўляецца на Вялікдзень на світанні, называецца рэзурэкцыяй. А што азначае слова "resurrectio" (лац.)?



**А.** Уваскрасенне
**Б.** Пераход
**В.** Раніца

**6** Каму першаму з людзей з'явіўся Уваскрослы Езус?



**А.** Апосталу Пятру
**Б.** Марыі Магдалене
**В.** Сваёй Маці

**7** Назва мястэчка, дзе вучні пазналі Уваскрослага Хрыста ў ламанні хлеба?



**А.** Бэтсаіда
**Б.** Кафарнаум
**В.** Эмаус

**8** Дзе спаткаўся Езус са сваімі вучнямі пасля Уваскрасення?



**А.** Самарыя
**Б.** Галілея
**В.** Кафарнаум

**9** Першыя словы, якія сказаў Езус сваім вучням пасля Уваскрасення (Лк 24, 36):



**А.** "Спакой вам!"
**Б.** "Я ўваскрос!"
**В.** "Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў!"

**10** Каму з апосталаў належаць гэтыя словы: "Калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не павеAbout"?



**А.** Апостал Андрэй
**Б.** Апостал Пётр
**В.** Апостал Тамаш

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 16



# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў падмуркі новага касцёла ў Віцебску

**У Пальмавую нядзелю, 5 красавіка, біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію Святога Уладзіслава ў мікраараёне Білева ў Віцебску і асвяціў падмуркі касцёла Святога Ігнацыя Лаёлы.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Па зразумелых прычынах – праз пандэмію каранавірусу ў краіне – на ўрачыстым мерапрыемстве не было шмат вернікаў. Аднак тыя, што прыйшлі, не хавалі сваёй радасці. Парафіянка Ганна Іванова сказала, што гэтага моманту ўсе чакалі вельмі даўно. Увесь час вернікі маліліся і збіралі ахвяраванні, каб нарэшце можна было распачаць будову святыні. Да гэтага часу з 2015 года св. Імшы адпраўляюцца ў арандаваным памяшканні, якое зусім невялікае і не можа задаволіць патрэбы маладой і актыўнай парафіі.

Пробашч парафіі Святога Уладзіслава а. Віктар Жук SJ зазначае, што асноўная мэта айцоў-езуітаў, якія апякуюцца парафіяй, – гэта душпастырская праца і рэлігійная адукацыя маладых сем'яў, што пражываюць у мікраараёне Білева. З выказваннем айца Віктара цяжка не пагадзіцца. Дастаткова кінуць позіркам на навакольле, каб пабачыць, як хутка ўзводзяцца шматпавярховікі, што ўшчыльную падбіраюцца да новага касцёла.

Архітэктурныя формы касцёла Святога Ігнацыя будуць мець сучасны стыль. Мадэратар і эканом Віцебскай Курыі а. Клеменс Верт SJ – адказны за будаўніцтва касцёла – тлумачыць гэта некалькімі прычынамі. Па-першае, стыль мусіць гарманічна ўпісвацца ў навакольнае асяроддзе мікраараёна-навабуда. Па-другое, падчас планавання будаўніцтва неабходна было сыходзіць з таго, што вытанчаныя формы касцёла кшталту неаготыкі каштавалі б непараўнальна даражэй. Па-трэцяе, будынак касцёла павінен адпавядаць усім нормам сучаснага будаўніцтва і быць зручным для карыстання для ўсіх катэгорый парафіян. А гэта нашмат лягчэй ажыццявіць якраз-такі пры будаўніцтве святыні менавіта такой канструкцыі.

На пытанне адносна тэрмінаў айцец Клеменс выказвае надзею, што ў красавіку 2021 года ўдасца здаць аб'ект для публічнага карыстання. Пакуль што яшчэ рана казаць, як будзе выглядаць сам касцёл знутры, аднак дакладна можна ўяўляць сабе, што ён будзе зручны: малітоўная частка плошчай 274 квадратныя метры разлічана на 230 чалавек, а адміністрацыйны блок прадугледжвае размяшчэнне класаў і залаў для заняткаў. Памеры ўсяго аб'екта – гэта 40,6 на 22,25 метраў. Будаўніцтва вядзецца за кошт ахвярадаўцаў.

Сама парафія Святога Уладзіслава існуе з 2008 г. За гэты час у ёй пастырскую апеку праводзілі дыяцэзіяльныя святары: кс. Андрэй Кулік, кс. Адам Дынак і кс. Віктар Місевіч. На сённяшні дзень парафіяй апякуюцца айцы-езуіты: а. Віктар Жук SJ, а. Станіслаў Памыкала SJ і а. Клеменс Верт SJ. Гэтым таксама тлумачыцца і тое, што касцёл будзе названы ў гонар Святога Ігнацыя Лаёлы – заснавальніка ордэна айцоў-езуітаў. У сваёй адукацыйнай працы айцы абапіраюцца на багаты досвед ігнацыянскай духоўнасці, асновы якой паклаў менавіта гэты святы заступнік.

# Біскуп Юзаф Станеўскі: "Ці павінен хрысціянін баяцца?"

**У сваім блогу ў сённяшняй складанай сітуацыі біскуп Юзаф Станеўскі, звяртаючыся да моладзі, піша пра тое, як па-хрысціянску перажыць час выпрабавання – без страху і з малітвай.**



"Мае дарагія сябры, я зноў звяртаюся да вас са сваім роздумам над цяперашняй гадзінай. Кожны з нас, сочачы за навінамі, успрымае пачутае паразному: хтосьці – спакойна і разважліва, хтосьці – насцярожана і з занепакоенасцю, а нехта – абыякава: маўляў, няхай старыя і хваравітыя перажываюць і баяцца... Народная мудрасць кажа, што страх – кепскі спадарожнік.

Святы Гілярый разважае так: "Страх – гэта перажыванне трывогі, што вынікае з чалавечай слабасці, якая баіцца цярпення, каторае ёй пагражае, і не жадае яго прыняць".

Такі характар страху, на думку святога, узнікае і жыве ў нас ад дакораў сумлення, ад загаду кагосьці больш магутнага, ад нападу мацнейшага, ад хваробы, ад нечаканай сустрэчы з дзікім зверам і ад усялякага зла. Гэтаму страху не трэба вучыцца, бо ён паходзіць з нашай прыроджанай слабасці. Мы таксама не павінны вучыцца таму, чаго нам трэба баяцца, бо гэтыя рэчы самі напаўняюць нас страхам (пар. св. Гілярый, біскуп, "Каментар да Псальмаў").

Дык ці павінен хрысціянін баяцца? Не, мае дарагія, не павінен, бо гэта да нас Езус скіроўвае сваё заахвочванне: "Не бойся, малы статак, бо спадабалася Айцу вашаму даць вам Валадарства" (Лк 12, 32).

Аднак крыху далей Езус кажа: "Шчаслівыя тыя слугі, якіх гаспадар знойдзе ў чуванні, калі прыйдзе" (Лк 12, 37). Таму падчас малітвы на Алііўнай гары Збаўца з дакорам звяртаецца да вучняў: "Чаму вы спіце? Устаньце і маліцеся, каб не паддацца спакусе" (Лк 22, 46).

А святы Ян Залатавусны кажа: "Малітва – гэта святло душы, сапраўднае пазнанне Бога <...>, гэта перадусім жаданне, скіраванае да Бога" (пар. св. Ян Залатавусны, біскуп, "Пра малітву. Гамілія 6").

Чаго сёння чалавек жадае ад Бога, ад жыцця, ад улады? Чаго я чакаю і на што спадзяюся? Ці выступаю я спадарожнікам Хрыста, ці толькі назіральнікам за цяперашняй гадзінай?..

Любая моладзь, я да вас звяртаюся з просьбай пра малітву! Пра малітву не толькі ў лучнасці з Папам, біскупам або душпастырамі. Я прашу пра малітву не ў акрэсленыя гадзіны, але пра малітву, якая няспынна працягваецца ўдзень і ўначы.

Разумею, што вам сумна праз тое, што шмат дзе моладзевыя сустрэчы адменены, бо такая рэальнасць цяперашняга часу, але яна міне. Святы Апостал Павел падбадзёрваў рымлянаў у цяжкую хвіліну: "Што ж скажам на гэта? Калі Бог за нас, хто супраць нас? Той, Які не пашкадаваў свайго Сына, але аддаў Яго за ўсіх нас, як жа не дасць нам разам з Ім таксама ўсяго?" (Рым 8, 31–32). І далей пытаецца: "Хто адлучыць нас ад любові Хрыста? Няшчасце ці прыгнёт, пераслед ці голад, галеча, нябяспека ці меч?" (Рым 8, 35).

Любыя мае юнакі і дзяўчаты! Малітва, поўная даверу, вызваляе ад страху і спакусы. Таму знакаміты хрысціянскі пісьменнік Тэртуліян робіць адважную выснову: "Толькі малітва можа выпрасіць нам ад Бога ўсё" (пар. Тэртуліян, прэзбітар, Трактат "Пра малітву").

І яшчэ некалькі словаў пра "прароцтвы" на цяперашні час: афіцыйныя і прыватныя. Іх шмат, нават занадта шмат можна знайсці ў сеціве. Памятаю, як падчас вучобы ў семінарыі ксёндз прафесар Люцыян Вайцяхоўскі прасіў нас на лекцыях па Святым Пісанні: "Хлопцы, не чытайце добрых кніжак. Чытайце найлепшыя, бо на добрыя вам не хопіць жыцця".

Хтосьці таксама сказаў, што ўсе кнігі, якія напісаў чалавек, – гэта толькі больш ці менш удалая спроба інтэрпрэтацыі Божага Слова, Святога Пісання. А ў ім, у трэцім раздзеле Апакаліпсісу святога Яна, Езус кажа: "Каго Я люблю, тых дакараю і выхоўваю. Таму будзь руплівы і пакайся!

Вось я стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною. Пераможцу дам сесці са Мною на Маім троне, як і Я перамог і сеў з Маім Айцом на Яго троне. Хто мае вушы, няхай пачуе, што кажа Дух Касцёлам" (Ап 3, 19–22).

З малітвай за вас, ваш брат Юзаф".

*Catholic.by*

# Статыстыка Касцёла: больш католікаў, але менш святароў

**У свеце расце колькасць біскупаў, але змяншаецца колькасць святароў, манахаў, манахінь і семінарыстаў. Самым "каталіцкім" кантынентам працягвае заставацца Амерыка.**

25 сакавіка былі прадстаўлены два статыстычныя даведнікі Каталіцкага Касцёла: "Annuario Pontificio" за 2020 г. "Annuarium Statisticum Ecclesiae", у якім публікуюцца дадзеныя за 2018 г.

З першага вынікае, што з пачатку 2019 г. у Каталіцкім Касцёле былі створаны чатыры новыя біскупскія кафедры, адна епархія, дзве тэрытарыяльныя прэлатуры і адзін апостальскі экзархат. Кафедрамі мітраполій сталі адна архідыяцэзія і чатыры дыяцэзіі. Да рангу дыяцэзіі былі падвышаны адна тэрытарыяльная прэлатура і адзін апостальскі вікарыят, да рангу епархіі – два апостальскія вікарыяты.

Дадзеныя, змешчаныя ў "Annuarium Statisticum", сведчаць: за першыя пяць гадоў пантыфікату Францішка, з 2013 па 2018 гг., колькасць ахрышчаных католікаў у свеце павялічылася на 6% або на 75 млн чалавек: з 1 254 млрд да 1 329 млрд.

Католікі складаюць крыху менш за 18% жыхароў планеты. Адносна агульнай колькасці насельніцтва іх больш за ўсё ў Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы – разам 63,7%. У Еўропе – гэта 39,7%, у Акіяніі (разам з Аўстраліяй) – 26,3%, у Афрыцы – 19,4% і ў Азіі – 3,3%.

Колькасць біскупаў за першыя пяць гадоў пантыфікату Францішка павялічылася на 3,9%: – з 5 173 да 5 337. Больш за ўсё лічба вырасла ў Акіяніі (+4,6%), за якой ідуць Амерыка і Азія (разам +4,5%), Еўропа (+4,1%) і Азія (+1,4%).

Святароў у свеце стала менш на 0,3%. У перыяд з 2013 па 2014 гг. колькасць прэзбітараў на планеце павялічылася на 1400 чалавек, але ў перыяд з 2016 па 2018 гг., наадварот, знізілася. Рост назіраецца толькі ў Афрыцы і Азіі, адпаведна на 14,4% і 11%. У Амерыцы колькасць святароў застаецца стабільнай і складае каля 123 тыс. чалавек, у Еўропе і Акіяніі – знізілася, адпаведна на 7% і 1%.

На працягу апошніх гадоў назіраецца стабільны рост колькасці пастаянных дыяканаў. З 2013 па 2018 г. іх стала больш на 10%, з 43 195 да 47 504.

Працягвае зніжацца колькасць законных братоў, якія не маюць святарскага пасвячэння: з 55 тыс. да 51 тыс. (–8%) за апошнае пяцігоддзе. Гэта тэндэнцыя датычыцца ўсіх кантынентаў, за выключэннем Афрыкі і Азіі, дзе назіраецца прырост, адпаведна на 6,8% і на 3,6%.

Адмоўная дынаміка назіраецца па колькасці манахінь. З 2013 па 2018 гг. лічба знізілися на 7,5%: з 649 тыс. да 642 тыс. У Еўропе сясцёр стала менш на 15%, у Акіяніі – на 14,8%, у Амерыцы – на 12%. У Афрыцы і Азіі іх колькасць, наадварот, павялічылася адпаведна на 9% і на 2,6%.

Семінарыстаў у свеце за першае пяцігоддзе пантыфікату Францішка стала менш на 2%. У 2013 г. іх налічвалася 118 251, а ў 2018 г. – 115 880 чалавек. Значнае зніжэнне колькасці навучэнцаў духоўных семінарый назіралася ў Еўропе і Амерыцы, адпаведна на 15,6% і 9,4%. У Афрыцы, наадварот, кандыдатаў да святарства стала больш на 15,6%.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*





# Біскуп Алег Буткевіч правёў велікапосныя рэкалекцыі ў Міхалішках

**З 27 па 29 сакавіка ў парафіі Святога Міхала Арханёла ў Міхалішках (Астравецкі дэканат) адбыліся велікапосныя рэкалекцыі, якія па запрашэнні пробашча парафіі кс. Анатоля Захарэўскага правёў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, паведамляе grodnensis.by.**

Духоўныя практыкаванні, якія некаторыя вернікі называюць "рэкалекцыямі жыцця", сталі для ўдзельнікаў часам умацавання ў веры, перыядам яе сведчання і ласкі.

Парафіяне доўга рыхтаваліся да гэтай падзеі і маліліся пра патрэбныя ласкі як для біскупа, так і для сябе, каб сэрца кожнага было адкрытае на дзеянне Божай дабрыні.

Рэкалекцыяніст зрабіў вялікае ўражанне на вернікаў. Сярод іншага яны адзначылі багацце яго сэрца і душы, жыццёвую мудрасць, адкрытасць на падзеі жыцця свету і чалавека, чуласць, уменне ўмацаваць чалавечую свядомасць.

Тры дні, падчас якіх біскуп Алег прапанаваў паразважаць над Божым словам, былі спалучаныя са штодзённай рэчаіснасцю, сталі магчымасцю нанова асэнсаваць вартасць і значэнне жыцця. Іерарх у гэты складаны час, калі свет перажывае пандэмію, настроіў вернікаў на цішыню і спакой.

У межах рэкалекцый прысутныя маглі ўдзельнічаць у адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, якая стала медытацыяй сэрца ва ўпрыгожанай святыні, што на працягу стагоддзяў не зачыняла сваіх дзвярэй.

Парафіяне спадзяюцца на духоўны плён гэтых рэкалекцый, а таксама выказваюць падзяку біскупу Віцебскаму за кожнае слова і настаўленне, якія ён ім прамовіў.

# 25-годдзе манаскіх шлюбаў адзначылі сёстры-эўхарысткі ў Браславе



**21 сакавіка ў галоўным доме Беларуска-Літоўскай дэлегатуры кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі сёстры Маргарыта Ларына і Таццяна Салодкая адзначылі 25-годдзе сваіх манаскіх шлюбаў.**

■ **с. Таццяна Гмыза SJE**, *eucharystki*

Урачыстасць завяршыла штогадовыя рэкалекцыі для сясцёр, якія праводзіў а. Станіслаў Памыкала SJ. Сёстры-эўхарысткі разам з гасцямі сабраліся ва ўтульнай браслаўскай капліцы на ўрачыстую святую Імшу, каб падзякаваць Богу за дваццаць пяць гадоў служэння сясцёр-юбілярак. Эўхарыстыю ўзначаліў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Падчас гаміліі айцец Станіслаў звярнуў увагу на сведчанне, якое даюць манахіні сваім жыццём. Не трэба шмат слоў, сваёй асобай яны звяртаюць увагу на Хрыста.

Пасля гаміліі сёстры Маргарыта і Таццяна аднавілі свае манаскія шлюбы, а таксама атрымалі ад біскупа Алега Буткевіча Крыж як знак таго, што для іх жыццё – гэта Хрыстос, а служэнне Сапраўднай Любові з'яўляецца іх першым і самым важным заданнем тут, на зямлі.

Аднаўленне манаскіх абяцанняў – асаблівы момант для кожнай сястры, якая перажывала такую ўрачыстасць. У гэтае імгненне ўзгадваюцца першыя крокі ў манаскім жыцці, радасць і хваляванне.

Уся Кангрэгацыя ў гэты дзень дзякавала Госпаду за дар паклікання сясцёр Маргарыты Ларынай і Таццяны Салодкай, прасіла вернасці для кожнай эўхарысткі, а таксама новых добрых пакліканняў да эўхарыстычнай законнай сям'і.

Пасля святой Імшы адбыліся цёплыя і шчырыя віншаванні юбілярак.

# Каляндар на май

**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі праз так званыя “маёвыя набажэнствы”.**



Цэнтральнаю часткаю маёвага набажэнства з’яўляецца Ларэтанская Літанія – адзін з найпрыгажэйшых гімнаў на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі. У ім Касцёл праслаўляе вялікія цноты і прывілеі, якімі Бог адарыў сваю верную Слугу. Літанія ўзнікла ў XII ст., хутчэй за ўсё, у Францыі, і была афіцыйна зацверджаная Папам Сікстам V. Назва “Ларэтанская” паходзіць ад італьянскага мястэчка Ларэта, дзе знаходзіцца адна з найвялікшых марыйных святыняў – домік з Назарэта, у якім Марыі з’явіўся Анёл Габрыэль. Менавіта там літанія набыла вялікую папулярнасць у вернікаў. Заахвочваем вас, шаноўныя чытачы, да актыўнага ўдзелу ў майскіх набажэнствах, прысвечаных Божай Маці.

**13 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.**



У 1917 годзе ў невялікай вёсцы Фаціма, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францыску Марто, Жасінцы Марто і Луцыі Душ Сантуш – аб’явілася прыгожая Панна, “Якая ззяла ярчэй за сонца”. Гэта была Найсвяцейшая Панна Марыя. Багародзіца аб’яўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага аб’яўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, пераслед Касцёла і яго адраджэнне.

**14 мая – Святога Мацвея, апостала.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпце і Эфіопіі.



Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з’яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**16 мая – успамін св. Андрэя Баболі, святара і мучаніка.**



Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць “Апосталам Палесся” і “Пінскім апосталам”. Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

**21 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**



Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з’яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне “Унебаўшэсце Пана” паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у “Дзеях Святых Апосталаў” (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае названую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

**31 мая – урачыстасць Нядзелі Спаслання Святога Духа.**



Пяцідзясятніца – урачыстасць Спаслання Святога Духа, якая адзначаецца ў пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня (у нядзелю праз сем тыдняў). Назва паходзіць ад старажытнагабрэйскага свята Пяцідзясятніцы, якое адзначалі на ўспамін пра дараванне Богам закона на гары Сінай. Гэтае старазапаветнае свята з’яўляецца правобразам спаслання апосталам і ўсім хрысціянам Святога Духа.

Святкаванне дня Спаслання Святога Духа пачыналася яшчэ ў апостальскія часы, але афіцыйна гэтае свята ўвайшло ў хрысціянскі каляндар у канцы IV ст., калі быў прыняты дагмат аб Найсвяцейшай Тройцы.

У хрысціян захавалася старазапаветная традыцыя ўпрыгожваць у гэты дзень святыні і дамы зялёнымі галінкамі бярозы, дуба і кветкамі, што сімвалізуе веру ў жыватворную сілу Духа. Акрамя таго, гэтая традыцыя таксама нагадвае нам мамрыйскі дуб, дзе патрыярха Абрагама наведала Найсвяцейшая Тройца ў постацях трох падарожнікаў (Быц. 18, 1–16).

Свята Спаслання Святога Духа – падзея першаступеннай важнасці ў жыцці Касцёла, бо яна завяршае ўтварэнне Касцёла Хрыстовага і сцвярджае таямніцу святасці. У гэты дзень, калі Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненных языкоў, апосталы ўмацаваліся ў сваёй веры, атрымалі моц для сусветнага прапаведавання Евангелля. У гэтай незвычайнай падзеі раскрываецца сутнасць нашай веры ў “адзіны святы каталіцкі апостальскі Касцёл”.

Касцёл адзіны паводле вобразу таго, што апосталы ў дзень Пяцідзясятніцы былі адзінадушна разам у малітве. Святасць Касцёла вызначаецца тым, што пад натхненнем Святога Духа ён сведчыць пра Хрыста. Каталіцкі (што абазначае “паўсюдны”) Касцёл – таму што Евангелле прызначана для ўсіх народаў, менавіта з гэтай прычыны ад самага пачатку Святы Дух дае Касцёлу дар разумення іншых моў. Касцёл Апостальскі – таму што заснаваны на падмурку апосталаў, ён верна захоўвае іх (апостальскае) навучанне сродкамі непарыўнай пераемнасці біскупаў.

Па сваёй прыродзе Касцёл місійны, а гэта значыць, што пры садзейнічанні Святога Духа накіраваны на распаўсюджванне Евангелля ва ўсім свеце. Таму абавязкам кожнага хрысціяніна таксама з’яўляецца абвяшчэнне Добрай Навіны іншым людзям.

*Падрыхтавала* **Вікторыя Колзун**

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 мая** – імяніны адзначае **кс. Алег Зямчонак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Леанід Мозгель** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*, **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Паставы)*;

**2 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**3 мая** – імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*, **ксёндз канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*;

**8 мая** – імяніны адзначаюць **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*, **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**9 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**12 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*;

**13 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **біскуп Алег Буткевіч**, **ксёндз канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**14 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша, Дуброўна)*;

**15 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **ксёндз канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*;

**16 мая** – імяніны адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**18 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**19 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*;

**20 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**22 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**24 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Крыштаф Коц’ян OP** *(Віцебск)*;

**25 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**26 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*; імяніны адзначае **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Сымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*;

**28 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**29 мая** – дзень нараджэння адзначае **ксёндз канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

**30 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, імяніны адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**31 мая** – дзень нараджэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалата)*, **ксёндз пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*; **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў* **Зміцер Лупач**

# Карло Акутис, 15-летний будущий блаженный: “Евхаристия – моя автострада, ведущая к Небу”

**21 февраля Папа Франциск уполномочил издать декреты о беатификации нескольких Слуг Божьих, среди которых 15-летнего итальянского подростка Карло Акутиса (1991-2006), ученика миланской школы отцов-иезуитов.**

Почитание Карло быстро распространилось после его смерти. Папа Франциск приводит его в пример молодежи в энциклике “Christus Vivit”. Вот как будущий блаженный упомянут в документе Папы: “Правда, что цифровой мир может подвергнуть вас риску погрузиться в себя, в изоляцию и пустые удовольствия. Но не забывайте, что даже в такой среде есть креативные, а иногда даже гениальные молодые люди. Именно таким был достопочтимый молодой человек Карло Акутис. Карло прекрасно понимал, что эти средства коммуникации и рекламы и механизмы социальных сетей могут использоваться для того, чтобы притупить наши чувства, сделать нас зависимыми от потребления и новинок, которые мы можем купить, сделать нас одержимыми своим свободным временем и запертыми в негативе. Но он был способен использовать эти новые методы коммуникации для передачи Евангелия, ценностей и красоты.

Карло не попал в ловушку. Он видел, что многие молодые люди, хотя и кажутся разными, на самом деле оказываются одинаковыми, гонясь за тем, что им навязывают сильные мира сего посредством механизмов потребления и одурачивания. Таким образом, они не позволяют расцвести дарам, которыми наделил их Господь, не предлагают этому миру те столь личные и уникальные способности, которые Бог посеял в каждом из них. Таким образом, по словам Карло, получается, что “все рождаются оригинальными, но многие умирают ксерокопиями”. Не позволяйте этому случиться с вами!” (Christus Vivit, 104-106).

Ниже мы публикуем рассказ Паолы Бергамини о христианском свидетельстве Карло.

### Автострада, ведущая к Небу

“Ему хватило пятнадцати лет, чтобы навсегда оставить след на земле”. Это слова одного из множества людей, чья жизнь изменилась благодаря Карло, хотя они никогда не с ним не встречались. Он был самым обычным подростком с одной только особенностью – бесконечной любовью ко Христу и желанием познакомить с Ним всех и каждого.

“Синьора, ваш сын особенный”. Антония Акутис слышала эту фразу много раз: от приходского священника, от учителей и товарищей по школе и даже от консьержа в их миланском доме на улице Ариосто, куда они переехали в 1994-м, через три года после рождения Карло. Он умер в пятнадцать лет, но за недолгую жизнь успел, видимо, сделать что-то необычайное – ведь Конгрегация канонизации удовлетворила просьбу об открытии беатификационного процесса.

На самом деле Карло рос вполне нормальным мальчиком. У него было множество приятелей, ему нравилась информатика. Но окружающие сразу же замечали его особенность и даже могли назвать ее по имени: Христос. Антония рано это заметила. Проходя мимо храмов, сын говорил ей: “Мама, зайдем поздороваться с Иисусом?” Потом она обнаружила, что Карло читает жития святых и Библию. Их семья никогда не отличалась излишней религиозностью, родители не ходили в церковь регулярно. “Но это маленькое “чудо” постоянно задавало кучу глубоких вопросов, и я не знала, что отвечать, – рассказывает Антония. – Его набожность приводила меня в растерянность. Он был таким юным и таким уверенным. Я понимала: это и его дело, но оно касается и меня тоже”. Отец Альдо Локателли, священник, общавшийся с ними обоими, говорил матери мальчика: “Некоторых детей Господь призывает с первых лет жизни”.

### До Иерусалима рукой подать

В семь лет Карло попросил о первом Причастии. И его Друг стал еще ближе. По просьбе отца Альдо монсеньор Паскуале Макки (служивший когда-то секретарем Павла VI) провел беседу, в ходе которой убедился: ребенок воспитан в христианском духе и достаточно зрел, чтобы приступить к Таинству. Он дал лишь один совет – найти для торжественного события место, способствующее внутренней сосредоточенности, лишенное отвлекающих факторов. И вот 16 июня 1998 года Карло впервые участвовал в Евхаристии. Случилось это в тишине закрытого монастыря в Перего, неподалеку от Лекко. Впрочем, его жизнь не стала с тех пор менее нормальной. Если не считать одного особенного, неизменного момента – ежедневного участия в святой мессе. Он говорил: “Евхаристия – моя автострада, ведущая к Небу. Нам повезло гораздо больше, чем апостолам, жившим две тысячи лет назад вместе с Иисусом: чтобы встретить Его, достаточно зайти в церковь. От нас до Иерусалима рукой подать”. После богослужения Карло всегда задерживался для созерцания и часто приступал к исповеди, ведь “подобно тому, как воздушный шар, чтобы подняться на высоту, должен сбросить балласт, так и душе необходимо избавиться от груза легких грехов, чтобы взлететь к Небесам”. Это простые слова ребенка, но они полны желания находиться рядом с Другом, Который просил у него все. В первую очередь, свидетельствовать о Нем собственной жизнью.

### Достаточно поднять глаза

Карло увлекается компьютером, изучает новые программы. Ему нравится играть на приставке с приятелями. В школе – сначала у сестер-марцелинок, а затем в иезуитском лицее – он дружит со всеми, особенно с теми, кто в этом нуждается. Даже неверующие ребята хотят быть рядом с ним – они его ищут, просят советов и помощи. Что-то в нем их притягивает как магнитом, и дело совсем не во внешней привлекательности. Карло, например, совершенно далек от “моды”, однажды он даже рассердился, когда мама купила ему вторую пару обуви. Такие мелочи его не интересуют. Мальчик ни от кого не скрывает источник своего счастья: у него в комнате есть образ Христа, и друзья, приходя к нему в гости, это замечают. Карло предлагает им вместе ходить на мессу, приглашает каждого примириться с Богом. “Печаль, – пишет он в дневнике, – это взгляд, направленный на самого себя, а счастье – взгляд, устремленный к Богу. Обращение заключается в том, чтобы перевести взгляд с низкого на высокое. Достаточно лишь простого движения глаз”.

В районе, где живет Карло, его тоже все знают. Катаясь на велосипеде, он останавливается, чтобы поприветствовать портье, многие из которых – иммигранты, исповедующие ислам или индуизм, рассказывает им о себе и о своей вере, и они слушают симпатичного и приветливого подростка. После обеда Карло собирает остатки еды и отвозит ее бездомным. Большим его другом становится индиец Раджеш, помогающий семье по хозяйству. Благодаря Карло этот настоящий брамин обращается и просит о Таинствах. “Карло говорил мне, что, приблизившись к Иисусу, я стану счастливее, – вспоминает он. – Его глубокая вера, любовь и чистота были настолько заразительны, что привели меня к Крещению. Я всегда считал его необычным, ведь, как правило, такие юные, красивые и обеспеченные ребята предпочитают заниматься в жизни совсем другими вещами”. Но Карло не представляет себе “других вещей”. Он, например, никогда не тратил деньги попусту. Сбережения шли на покупку спального мешка для бродяги, которого мальчик встречал по дороге на мессу, либо на нужды братьев-капуцинов, готовящих обеды бездомным.

В 2002 году Карло с родителями посетил Митинг в Римини, где один их знакомый священник представлял “Краткий евхаристический катехизис”. Увиденное произвело на подростка сильное впечатление. Ему приходит в голову идея: создать выставку о евхаристических чудесах. “Мой сын был уверен, – объясняет Антония



Акутис, – что так люди осознали бы: в освященном хлебе и вине действительно пребывают Тело и Кровь Христа, причастие – не какой-то символ, а реальная возможность встретить Его. В то время он помогал катехизаторам, и проект казался ему новым способом размышлять о Тайне Евхаристии”.

### “Они должны понять”

Сразу же по возвращении из Римини Карло принимается за дело, в которое вкладывает всю душу и силы. Он просит родителей организовать поездку по Италии и другим странам Европы, чтобы собрать необходимые фотоматериалы. В процесс постепенно вовлекаются знакомые. Ему понадобилось три года и столько же компьютеров, чтобы воплотить идею в жизнь. О выставке начинают говорить, и неожиданно она становится востребованной не только в итальянских епархиях, но и по всему миру.

Летом 2006 года Карло спросил у матери: “Как ты думаешь, мне стоит стать священником?” Антония ответила очень просто: “Ты сам поймешь. Бог подскажет”. В начале октября мальчик заболел. Казалось бы, обычная простуда. Незадолго до этого он закончил монтаж фильма о возможностях волонтерской работы для учеников иезуитского лицея. Показ был назначен на 4 октября, но Карло не смог пойти из-за недомогания. Еще через несколько дней его положили в госпиталь св. Джерардо в Монце: выяснилось, что за безобидными симптомами скрывался острый лейкоз в самой агрессивной форме. Врачи были бессильны. Переступив больничный порог, Карло повернулся к матери: “Отсюда я не выйду”. А чуть раньше сказал родителям: “Я приношу Господу свои страдания за Папу и за Церковь, а еще за то, чтобы не попасть в чистилище и отправиться сразу на Небо”. Больше он о страданиях не говорил, а на вопросы медсестер о самочувствии отвечал: “Все хорошо. Есть те, кому гораздо хуже. Не надо будить маму, она устала и только зря разволнуется”. Вскоре ему преподали Таинство елеосвящения, а уже 12 октября его не стало.

В день похорон церковь была переполнена. “Пришли люди, которых я никогда раньше не видела, – вспоминает Антония. – Бездомные, иммигранты, дети… Многие рассказывали о Карло, о том, что он делал, – я ничего об этом не знала. Я чувствовала себя осиротевшей, а они свидетельствовали мне о жизни моего сына”.

Свидетельство самого Карло преодолело порог смерти и преобразило не одну жизнь. Благодаря друзьям и интернету история и мысли итальянского подростка стали известны далеко за рамками его круга общения. Семья Акутис получает сотни и сотни писем от людей, желающих узнать о нем больше. В одном из писем говорится: “Я был в церкви Сан-Фредиано-аль-Честелло во Флоренции и увидел там фотографию Карло. Он словно ждал меня. Его лицо так меня поразило, что я подошел ближе и начал читать биографию мальчика, которому хватило пятнадцати лет жизни, чтобы навсегда оставить след на этой земле”. Многие делают комментарии и в соцсетях, как, например, один сверстник Карло: “Он вырос в обеспеченной семье, и ничто не мешало ему пользоваться любыми благами и смотреть на окружающих свысока. Тем не менее, его характер и образ жизни были скромными. Открытость даже самым последним людям, альтруистическое отношение к любому встречному – для нашей “планеты” это совсем немало”. Карло подал пример веры огромному числу ребят, многие из них охотно рассказывают о своем обращении. Наконец, созданная им выставка с помощью братства Рыцарей Колумба успела, кажется, побывать повсюду, добравшись до России, Китая и Латинской Америки. Ее приняли более ста университетов, а уж о приходах и говорить не приходится.

Отец Луиджи Джуссани [основатель движения Comunione e Liberazione – Общение и освобождение] писал: “Свобода Бога действует в сотворенной Им жизни, вовлекается в нее, отталкиваясь от избранных людей и мест – предпочтенных, сказали бы мы, но это предпочтение служит всему остальному”. Особенность Карло состояла в этом предпочтении, которое он принял с любовью. “Мой сын стал священником на Небе, – уверена Антония. – Он никак не мог смириться с тем, что концерты собирают стадионы, в то время как в церквях пусто. И постоянно повторял: “Они должны понять””.

*Источники: https://www.vaticannews.va/ru/vatican-city/news/2020-02/sredi-novyh-blazhennyh-podrostok-karlo-akutis.html*

*https://ru.clonline.org/default.asp?id=800&id_n=19998*

# Вялікі пост і



**Вялікі Пост – гэта спрыяльны час для праяўлення міласэрнасці да бліжняга. Ёсць шмат спосабаў, якімі мы можам дапамагчы тым, хто знаходзіцца ў нейкай духоўнай ці матэрыяльнай патрэбе.**

**с. Дар'я Галубкова OV**

Перадусім гэта ўчынкі міласэрнасці ў адносінах да душы і цела бліжняга, пра якія і пойдзе гаворка.

## I. Учынкі міласэрнасці да цела бліжняга

Вядома, што чалавек – гэта адзінства душы і цела. Клопат пра цела займае шмат нашага часу і сіл, здаецца, нават больш, чым клопат пра душу. Мы зарабляем грошы, каб было што паесці, у што апрануцца, заплаціць за жыллё і мець дах над галавой. Мы ідзём да лекара і прымаем лекі, каб быць здаровымі. І гэта зразумела, бо калі страўнік адчувае голад або калі штосьці моцна баліць, то цяжка ў такія хвіліны думаць пра нешта ўзнёслае і духоўнае.

Пан Езус, Які стаў Чалавекам і ўзяў на Сябе ўсе нашыя немачы, цудоўна гэта разумеў. І таму Ён так моцна, фактычна пад пагрозай вечнага пакарання, наказвае нам выконваць учынкі міласэрнасці да цела бліжняга. У Евангеллі Езус апісвае слухачам вобраз Апошняга Суда. Ён кажа, што звернецца тады да тых, што праваруч ад Яго: "Прыйдзіце, благаслаўлёныя Айца Майго, прыміце ў спадчыну валадарства, падрыхтаванае вам ад стварэння свету". І далей тлумачыць, чым жа яны гэта заслужылі: "Бо Я быў галодны – і вы далі Мне есці, прагнуў – і вы напаілі Мяне, быў падарожным – і вы прынялі Мяне, быў голы – і вы апранулі Мяне, быў хворы – і вы адведалі Мяне, быў у вязніцы – і вы прыйшлі да Мяне".

І спытаюць у Яго ў здзіўленні тыя, што праваруч ад Яго: "Пане, калі мы бачылі Цябе галодным – і накармілі, сасмяглым – і напаілі? Калі мы Цябе бачылі хворым ці ў вязніцы?" А Езус ім адказа: "Сапраўды кажу вам: тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі". Гэтыя словы азначаюць: той, хто дапамагае чалавеку ў патрэбе, дапамагае самому Езусу. Той, хто быў міласэрны да беднага і няшчаснага, сам атрымае міласэрнасць ад Бога.

У сваю чаргу, Пан Езус скажа тым, хто леваруч ад Яго: "Ідзіце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, падрыхтаваны д'яблу і анёлам яго". Бо Я быў галодны – і вы не далі Мне есці, прагнуў – і вы не напаілі Мяне, быў голы – і вы не апранулі Мяне, быў хворы і ў вязніцы – і вы не адведалі Мяне. Сапраўды кажу вам: чаго вы не зрабілі аднаму з гэтых меншых, таго не зрабілі і Мне".

Вышэйузгаданыя словы Пана Езуса ўказваюць на канкрэтныя ўчынкі, якія мы павінны рабіць у адносінах да цела бліжняга.

**1** Першы з іх: накарміць галодных. Калі галодны просіць паесці, нельга ніколі яму адмовіць. Іншая справа, калі жабрак адмаўляецца ад ежы і просіць толькі грошы. У такім выпадку, хутчэй за ўсё, ён патраціць іх на гарэлку. Таму можна адмовіцца і не даваць яму грошы, але есці даць трэба заўжды.

Ёсць такая гісторыя пра св. Альжбету Партугальскую, якая была міласэрнай жанчынай і заўсёды насіла з сабой хлеб, каб раздаваць яго бедным. Яе муж быў вельмі скваліным і ўрэшце забараніў ёй гэта рабіць. Аднойчы ён падпільнаваў св. Альжбету, калі яна халоднай зімой у сваім фартушку вынесла хлеб жабракам. Ён падбег і рэзка адхінуў фартушок, але ўбачыў там не хлеб, а ружы. Тады ён зразумеў, што гэта знак ад Бога і ўжо больш ніколі не забараняў ёй карміць бедных.

**2** Другі ўчынак міласэрнасці да цела бліжняга: напаіць сасмяглых. Ён вельмі падобны да папярэдняга. Мне асабіста адразу ўзгадваецца час, калі я хадзіла ў пілігрымку ў Будслаў. Па дарозе некалькі разоў пілігрымаў сустракалі вяскоўцы з вялікімі вёдрамі вады, кампоту або малака. Як жа было прыемна наталіць смагу, асабліва ў спёку! Я ніколі не ведала, як завуць тых людзей, я не памятаю іхніх твараў, але назаўжды ў памяці застаўся іх добры ўчынак, за які Пан Бог ім, пэўна ж, аддзячыць.

**3** Апрані голых. На тэму гэтага ўчынку міласэрнасці ёсць легенда пра святога жаўнера Марціна. Гаворыць яна, што аднойчы ўзімку ён сустрэў жабрака і падзяліўся з ім паловай свайго плашча, бо не меў іншага. Калі св. Марцін вярнуўся дадому, то пабачыў у сне Пана Езуса, апранутага гэтаксама, як і той жабрак, у палову ягонага плашча.

**4** Прыняць у дом падарожных. Калісьці даўно людзі шмат падарожнічалі пешшу або на кані. Калі-нікалі падарожжа займала не адзін дзень і не два. Часта, калі ніхто не прымаў на начлег вандроўніка, ён заставаўся спаць пад голым небам. Цяпер, вядома, іншыя часы: прымаць незнаёмых людзей можа быць нават небяспечна. Але ж не забывайма пра гасціннасць, асабліва ў адносінах да родных і знаёмых. Зноў жа, падчас пілігрымак або нейкіх масавых хрысціянскіх спатканняў мы маем магчымасць прыняць кагосьці ў дом і такім чынам выканаць наказ Пана Езуса.

**5** Адведваць хворых. Вакол нас шмат хворых людзей. Напэўна, заўжды ёсць хтосьці хворы сярод нашых родных, знаёмых, суседзяў, калегаў з працы, аднакласнікаў. У аднаго грып, другі зламаў руку, трэці ляжыць у шпіталі, чацвёрты пакутуе ад невылечнай хваробы... Мы павінны памятаць пра міласэрнасць і спачуванне да хворых, асабліва да нямоглых, да тых, хто патрабуе пастаяннай апекі: адведаць іх, дапамагчы ў штодзённых справах, прыгатаваць паесці, набыць лекі, а таксама цярпліва выслухаць, праявіць клопат і спагаду. Прыкладам служэння хворым, між іншым, з'яўляецца св. Ян Божы, заснавальнік ордэна баніфратраў. У XV ст у Гранадзе ён заснаваў шпіталь для цяжка хворых і бяздомных асобаў. Некаторыя, асабліва заможныя жыхары горада, не разумелі, навошта ён возіцца з гэтымі калекамі і жабракамі, якіх яны нават не лічылі за людзей. Аднойчы св. Ян атрымаў ад Бога цудоўны знак: калі ён прынёс у шпіталь брыдкага, пакрытага язвамі жабрака, то заўважыў на ягоных руках і нагах стыгматы – сляды ад ранаў Хрыстовых. Ён зразумеў, што гэта быў сам Пан Езус, Які падзякаваў Яну за апеку хворых і ў гэтую ж хвіліну знік.

**6** Наступны ўчынак міласэрнасці: суцяшаць вязняў. Калі ў даўнія часы арабы і туркі хапалі хрысціян і прадавалі ў няволю, то ўзніклі манаскія ордэны, якія займаліся зборам міласціны і выкупам хрысціянскіх нявольнікаў. Самым першым быў ордэн трынітарыяў з XIII ст. Мы, сучасныя хрысціяне, таксама пакліканыя падтрымліваць тых людзей, якія знаходзяцца ў вязніцы. Канешне, можа быць, што большасць з іх сапраўды адбывае слушнае пакаранне за ўчыненае зло. Але гэта не значыць, што яны не патрабуюць міласэрнасці і спачування, хутчэй, наадварот, вязень павінен усведаміць сабе, што ягонае жыццё яшчэ не страчана, што кожны мае шанс на выпраўленне і навяртанне.

**7** Урэшце, сёмы ўчынак міласэрнасці да цела бліжняга: пахаваць памерлых. У Старым Запавеце мы чытаем пра міласэрнага Товія, які падчас пераследу ізраільцян, калі іх забівалі за вернасць Пану Богу і не дазвалялі хаваць іхнія целы, патаемна ўначы забіраў целы памерлых і хаваў у сваім садзе, за што атрымаў вялікую ласку ад Бога. Цела чалавека, хоць і не вечнае ў адрозненні ад душы, але з'яўляецца яго інтэгральнай часткай, святыняй Духа Святога. Таму праз пашану да цела памерлага чалавека і годнае пахаванне праяўляецца нашая пашана да гэтай асобы ўвогуле.

## II. Учынкі міласэрнасці да душы бліжняга

Душа чалавека таксама вельмі часта патрабуе міласціны, і гэта зусім не залежыць ад таго, бедны ён ці багаты, здаровы ці хворы. Як жа мы можам дапамагчы душы нашага бліжняга?

**1** Перш за ўсё, настаўляць грэшнікаў. Гэтым мы праяўляем клопат пра духоўнае дабро чалавека, які заблытаўся. Інакш настаўленне грэшнікаў можна назваць "братэрскім павучэннем", звяртаннем увагі. Сам Езус Хрыстус вучыў нас гэтаму, гаворачы: "Калі зграшыць супраць цябе брат твой, пайдзі і дакары яго сам-насам. Калі ён паслухае цябе, то ты здабыў свайго брата". Чаму гэта так важна? Таму што нельга быць абыякавым да зла, якім з'яўляецца грэх. Калі мы заплюшчваем вочы на зло, якое чыніць бліжні, або дазваляем яму гэта рабіць, то не толькі не маем любові да яго, але нават можам стаць саўдзельнікамі ягонага граху. Усе мы ўзаемна адказваем адно за аднаго перад Богам. Нельга думаць толькі пра ўласнае збаўленне, але трэба дбаць і пра збаўленне іншых. Думаю, кожны можа ўзгадаць сітуацыю, калі ён намагаўся засцерагчы кагосьці з родных або сяброў ад неабдуманага рашэння, небяспечнага падарожжа, пагрозы здароўю. Калі любіш чалавека, то не можаш абыякава глядзець, як той губіць сваё жыццё. Таксама і з грахом. Настаўленне грэшнікаў – гэта не што іншае, як засцераганне перад духоўнай небяспекай і духоўнай згубай.

Канешне, не заўжды бліжні прыме гэтае настаўленне з ахвотай, але тым не менш добрая парада чалавека, якога ён паважае і да якога прыслухоўваецца, можа ўтрымаць яго ад граху. Важна памятаць, што паказваць грэшніку на яго грэх трэба з любоўю, пакорай, далікатнасцю і клопатам пра яго збаўленне, а не дзеля таго, каб узвысіць самога сябе: маўляў, я лепшы і больш пабожны, чым ты. Бо ўсе мы маем свае ўласныя грахі і патрабуем навяртання. Гэта рабіць зусім няпроста, але варта ўзгадаць словы святога апостала Якуба: "Калі хто з вас збочыў са шляху праўды, а нехта навярнуў яго, няхай ведае: хто навярнуў грэшніка з яго аблуднага шляху, збавіць душу ягоную ад смерці і закрые мноства грахоў".

**2** Вучыць тых, хто не ведае. Гэтае павучэнне можа датычыць як нейкіх школьных, навуковых ці практычных ведаў, у тым ліку рэлігійных, так і ўвогуле дзялення жыццёвай мудрасцю і досведам. Міласэрны хрысціянін павінен дзяліцца з іншымі не толькі матэрыяльнымі дабротамі, але і ўменнем годнага і пабожнага жыцця, асабліва з дапамогай уласнага прыкладу. Перш за ўсё гэтага патрабуюць дзеці і моладзь, якія толькі пачынаюць свой жыццёвы шлях і абапіраюцца на вопыт і веды старэйшых пакаленняў. Таксама дапамогі могуць патрабаваць і дарослыя, якія разгубіліся ў цяжкіх жыццёвых абставінах. Прарок Даніэль кажа: "Тыя, якія навучылі многіх справядлівасці, будуцьззяць, як зоркі, навекі вечныя". Узнагародай за добрае павучэнне будзе пачуццё, што нашыя веды і досвед аказаліся камусьці патрэбныя і што Бог праз нас учыніў штосьці добрае ў жыцці нашых бліжніх.

# міласэрнасць



3 Раіць тым, хто сумняваецца. Звычайна перад тым, як прыняць нейкае важнае рашэнне, чалавек абдумвае розныя варыянты і наступствы сваіх дзеянняў. “Кніга Сіраха” вучыць: “Не рабі нічога без роздуму, і не будзеш шкадаваць пра тое, што зрабіў”. Аднак прыняць рашэнне не заўжды бывае лёгка, і чалавек можа засумнявацца і звярнуцца па параду да бліжняга. Парада з’яўляецца адным з дароў Святога Духа, таму, калі хтосьці хоча даць іншаму добрую раду, павінен заўсёды рабіць гэта з думкаю пра Божыя справы. Трэба раіць іншым таксама, як бы мы раілі самім сабе. Было б вялікім грахом і крыўдаю даваць парады, калі мы ведаем, што яны могуць нашкодзіць бліжняму, аддаліць яго ад Бога. Нельга раіць камусьці супраціўляцца Божай волі, бо гэта будзе заахвочваннем да граху.

Часам можа быць так, што чалавечай мудрасці будзе недастаткова, каб знайсці канкрэтны адказ на нейкае пытанне. Мы, хрысціяне, ведаем, што ў такім выпадку адказу трэба шукаць у Бога: на малітве прасіць натхнення Святога Духа, чытаць Слова Божае, а таксама прасіць заступніцтва і парады ў Маці Божай, Якую ў літаніі мы між іншым называем Сталіцай Мудрасці.

4 Суцяшаць засмучаных. Вельмі часта, калі мы засмучаныя або крыху раздражнёныя і хтосьці падыдзе, абдыме і суцешыць нас добрым словам, то адразу становіцца лягчэй і весялей на душы. У балеснай і прыкрай сітуацыі для бліжняга, такой, як хвароба, цярпенне, нядоля, пачуццё самоты, пакінутасці, здрады, мы не павінны пакідаць яго самнасам з ягонай бядой, але быць побач з ім, наследуючы Езуса Хрыста, Які нахіляўся над чужым цярпеннем і літаваўся над беднымі і засмучанымі. Калі мы намагаемся суцешыць бліжняга ў смутку, важна не столькі падабраць правільныя словы, але пераканаць яго, што нам не ўсё роўна, што ён перажывае. Важна быць проста побач, як гэта рабіла Панна Марыя пад крыжам Езуса. Яна не казала Яму: “Не перажывай, усё будзе добра!” Яна проста маўчала і стаяла побач, але сваёю прысутнасцю суцяшала і ўзмацняла Свайго Сына ў апошнюю гадзіну. Быць міласэрным, суцяшаць засмучаных – гэта азначае, сказаць камусьці: ты мне небыякавы, я побач. Часам гэтага дастаткова, каб аднавіць у засмучаным чалавеку надзею і ўзмацніць яго ў нясенні ягонага крыжа.

5 Цярпліва зносіць знявагу. Пэўна, кожны з нас меў у жыцці такія моманты, калі пачуваўся пакрыўджаным. Калі знявага вельмі моцна зраніла нас, то прабачыць і забыць яе не так проста. Можна нават падумаць, што цярплівае зношэнне крыўдаў і знявагаў – гэта праяўленне слабасці і бездапаможнасці перад тым, хто нас абражае. Але звернемся да прыкладу Езуса: Ён цярпліва перанёс усе знявагі падчас Сваёй мукі, Ён вучыць нас несці свой крыж і любіць ворагаў нашых. Узорам цярплівага знашэння зняваг з’яўляюцца таксама хрысціянскія мучанікі, якія, здавалася б, былі пераможаныя людзьмі, але атрымалі вянок хвалы і перамогі ад Бога. З пункту гледжання веры, зло можна перамагчы толькі дабром. Якім жа чынам адказваць на знявагі і крыўды? Не нянавісцю і прагненнем помсты, але перадусім малітвай за тых, хто нас абражае. Трэба памятаць, што Бог Сам заступаецца за бедных і пакрыўджаных.

6 З папярэднім учынкам міласэрнасці звязаны і наступны: ахвотна дараваць крыўду. У малітве “Ойча наш” мы молімся: „Адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым”, а сам Пан Езус гаворыць нам: „калі не прабачыце людзям іх правіны, то і вам не прабачыць Айцец ваш нябесны”.

Дараванне крыўды азначае перамогу над помстай. Гэта зусім нешта новае ў параўнанні з правілам Старога Запавету: вока за вока, зуб за зуб. Адказваць злом на зло, помсціць злачынцу – гэта справядлівасць чалавечая, але не Божая. Касцёл заклікае нас зрабіць вельмі цяжкую рэч: прабачыць. І не проста прабачыць, з прымусу, але ахвотна. Чаму так? Каб не дазволіць крыўдзе стаць нагодай да зласлівасці і смутку ў душы. Гэты ўчынак міласэрнасці патрэбны ўсім нам і ў выпадку, калі пакрыўдзілі нас, і калі мы самі пакрыўдзілі іншага. Дзякуючы прабачэнню вылечваюцца душэўныя раны. Даруючы бліжняму, мы не зачыняем нікому дзвярэй у нашыя сэрцы, не адмаўляем добразычлівасці. Мы паказваем таму, хто прычыніў нам боль, што сапраўдны сэнс жыццю дае толькі любоў, нават такая нялёгкая, як любоў і міласэрнасць да вінаватых нашых. Найлепшым прыкладам прабачэння з’яўляецца Езус на Крыжы, які ў час канання маліўся: “Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць”.

7 Маліцца за жывых і памерлых. Гэты апошні ў спісе ўчынак міласэрнасці нагадвае нам, што хоць мы і можам зрабіць шмат добрага для нашых бліжніх, аднак Пан Бог можа зрабіць значна больш, чым мы. Св. Фаўстына казала, што існуюць тры спосабы міласэрнай дапамогі бліжнім: учынак, слова і малітва. У першых двух дзейнічае чалавек, а трэці дазваляе дзейнічаць Богу. Міласэрнасць чалавека, ягоныя сілы і магчымасці абмежаваныя. Нашыя рукі аказваюцца слабымі, а нашая мудрасць недастатковай, каб знесці ўвесь цяжар чалавечых праблемаў. Калі мы молімся за іншых, то нейкім чынам прызнаём гэту сваю абмежаванасць, прызнаём, што патрабуем дапамогі Кагосьці, Хто мацнейшы за нас, ад Якога ў рэшце рэшт усё залежыць. Давяраючы справы нашых бліжніх Богу, мы можам быць пэўныя, што яны ў добрых руках, у руках міласэрнага Айца.

Будзьма і мы міласэрныя, як і Айцец наш нябесны! Не забывайма пра ўчынкі міласэрнасці да душы і цела бліжняга! Аднаўляйма гэты свет спагадаю і любоўю!

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму паважанаму* ***ксяндзу-пробашчу Тадэвушу Кавальскаму*** *з нагоды надыходу Дня святарства і светлага свята Уваскрасення Хрыста!*

*Шаноўны ойча Тадэвуш! Прыміце ад нас, калі ласка, букет самых шчырых пажаданняў здароўя, міру, дабра, шчаслівых і радасных дзён, поспехаў на няпростым шляху Божага паклікання! Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень Вашага святарскага жыцця, надаюць сілы для ажыццяўлення Вашых планаў і задумак на хвалу Пану Богу, на карысць Каталіцкаму Касцёлу і ўсім вернікам!*

*Божага блаславення і ўсяго найлепшага Вам і Вашым родным!*

***З вялікай павагай і малітвамі, вернікі касцёла Езуса Хрыста Валадара Сусвету ў Бягомлі***

## Хвала Хрысту!

*11 красавіка адзначае свой Дзень нараджэння* ***ксёндз-канонік*** *Віцебскага катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага* ***Валерый Орсік****. Самыя шчырыя віншаванні і пажаданні мы дасылаем свайму былому ксяндзу парафіі Беззаганнага Сэрца Дзевы Марыі ў г. Орша, які працаваў у нас дзесяць гадоў. Тут ён пакінуў пра сябе незабыўную памяць: пабудаваў касцёл і ўсталяваў у нашай свядомасці хрысціянскія традыцыі.*

*Шаноўны ксёндз Валерый! Ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, шмат сілаў і цярпення ў працы на няпростай ніве святарства, добразычлівых людзей і ажыццяўлення творчых планаў! Няхай Святы Дух асвячае святлом кожны Ваш дзень, а Маці Божая хай моліцца за Вас і апякае мацярынскай любоўю!*

*Сардэчна дзякуем за службу ў нас, за Вашу шчырую ўсмешку, за добрыя словы, за падтрымку, за малітву і данясенне да нашых сэрцаў Божага слова! Мы ўдзячныя Вам за гады, праведзеныя з намі, і заўжды памятаем пра Вас ва ўсіх нашых малітвах.*

*Няхай Пан Бог заўсёды апякуецца Вашым жыццём, напаўняе яго дабрынёй і радасцю, а Вашых бацькоў хай адорыць здароўем і патрэбнымі ласкамі!*

***Вернікі парафіі Беззаганнага Сэрца Дзевы Марыі (г.Орша)***

## Хвала Хрысту!

*11 красавіка, падчас Трыдууму Пасхальнага, наш пробашч* ***ксёндз-канонік Валерый Орсік*** *адзначае дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Валеры!*

*Шчыра віншуем Вас з Вашым святам! Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, бадзёрасці духа, мудрых рашэнняў і разумення волі Божай у Вашым служэнні!*

*Прыміце таксама нашы віншаванні з нагоды Дня ўстанаўлення сакраманту Святарства і з Вялікаднем! Няхай Пан Бог напоўніць радасцю і любоўю Ваша сэрца, а Уваскрослы Хрыстус узмацняе і дае надзею ў хвіліны цяжкасцяў і выпрабаванняў!*

*Дзякуем за працу ў нашай парафіі!*

***З малітвай – вернікі катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага***

## Паважаны ксёндз Славамір!



*Удзельнікі руху “Апостальства дапамогі душам чысцовым” з Ідолты, Павяцця і Мёраў віншуюць Вас са святам Вялікадня. Няхай Пан Бог адорыць Вас усімі патрэбнымі Божымі ласкамі, а анёлы і святыя хай вядуць па жыцці і ахоўваюць Вас!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем шчырыя віншаванні з Днём Святарства нашаму любаму* ***ксяндзу Яну Пугачову****!*



*Мы паважаем шчыра Вас*
*За Ваш айцоўскі клопат.*
*За чуласць Вашу да ўсіх нас,*
*За ўсе жыццёвыя турботы.*

*І за штодзённае старанне,*
*За Вашы светлыя намеры*
*Знайсці й закласці моцны камень*
*У падмурак нашай веры.*

*Для Вас жаданні найшчырэйшы:*
*Здароўя, Божай прыгажосці,*
*Апекі Маці Найсвяцейшай,*
*Для сэрца вечнай маладосці!*

***Апостальскі рух “Маргарытка” з касцёла Перамянення Пана, в. Германавічы***

## Віншуем!

*З чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (8 красавіка) і Вялікаднем віншуем нашага* ***ксяндза Мікалая Ліпскага*** *і выказваем яму найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, задавальнення ад душпастырскай працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху! Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць патрэбнымі ласкамі і ўзмоцніць Вас!*

*Нашы віншаванні і пажаданні моцнага здароўя таксама і Вашым бацькам! Сардэчная падзяка ім за сына-святара!*

***Вернікі касцёла ў Новалукомлі***

## Хвала Хрысту!

*Паважанаму* ***ксяндзу Ежы Вільку SCJ*** *з нагоды Дня нараджэння жадаем, каб яго заўсёды акружалі промні Божай Міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Маці. Дарагі ойча, няхай кожны дзень надае Вам сілы і прыносіць радасць для здзяйснення паслугі. Моцнага Вам здароўя, душэўнага супакою і людской добразычлівасці.*

*Дзякуем за прыклад глыбокай малітвы, абвяшчэнне Божага слова і клопат пра нашу святыню. Няхай Усемагутны Бог узнагародзіць за тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю.*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхала Арханёла ў г.п. Варапаева***

## Хвала Хрысту!



*З нагоды імянінаў дасылаем найлепшыя пажадані нашаму паважанаму* ***ксяндзу Віталю Бяленіку****! Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, шаноўны ксёндз Віталь, напаўняе яго дыханнем Божай любові і прамянямі Святога Духа! Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе доўгі і шчаслівы, хай спаўняюцца добрыя жаданні, а апека Маці Божай хай нясе Вам сваю любоў і ласку!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнай гармоніі, няспыннай удачы і дабрабыту! Заставайцеся назаўсёды такім пазітыўным, адкрытым для ўсіх вернікаў чалавекам, добрым дарадчыкам і духоўным апекуном!*

***Са словамі падзякі і шчырай удзячнасці, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса (м. Падсвілле)***

## Віншуем!

*Праз газету "Каталіцкі Веснік" віншуем нашага дарагога* ***ксяндза Юрыя Бараўнёва*** *з Днём нараджэння (23 красавіка)!*

*Няхай кожны дзень у Вашым жыцці, шаноўны ксёндз Юрый, будзе напоўнены дабрынёй і любоўю да Бога і сваіх парафіян! Хай святарскае служэнне прыносіць Вам радасць у душы і сэрцы! Здароўя Вам, спакою і свята. Каб кожны новы дзень быў для Вас благаслаўлёным!*

***З павагай, парафіяне з Барсукоў, Крулеўшчыны і Порплішча***

## З імянінамі!

*23 красавіка* ***ксёндз Юрый Жаўняровіч*** *адзначае імяніны. Мы шчыра яго віншуем!*

*Перш-наперш Вам здароўя зычым,*
*Яго не купіш, не пазычыш.*
*А па-другое... Па-другое –*
*Каб Вы заўжды былі такім*
*Добразычлівым і з душой.*
*Каб болю й смутку Вы не мелі,*
*Няхай заўсёды пра запас*
*Настрой і ўсмешка будуць у Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай ( в.Замошша)***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем нашага паважанага* ***пробашча Юрыя Жаўняровіча*** *з Днём устанаўлення сакраманту святарства, са светлым і радасным святам Уваскрасення Пана і з імянінамі (23 красавіка)!*

*Ад усяго сэрца жадаем шмат радасці, здароўя, цярплівасці, плёну ў душпастырскай працы і добразычлівых людзей на святарскім шляху! Няхай на Вашым твары зззяе ўсмешка, а сэрца будзе напоўнена супакоем! Няхай Анёл-Ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй мацярынскай апекай!*

*Любоў, падзяку і павагу прыміце ад вернікаў парафіі Узвышэння Святога Крыжа (аг. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н)*

## Віншуем і дзякуем!



*Шаноўнаму* ***ксяндзу Сяргею Сурыновічу*** *з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога і ўсіх Божых ласкаў!*

*Мы ўдзячныя Богу, што паслаў Вас, паважаны ксёндз Сяргей, на наш шлях. Мы шчыра жадаем, каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы!*

***З павагай і любоўю, вернікі капліцы Св. Юзафа ў аг. Друйск***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*13 красавіка адзначае Дзень нараджэння* ***ксёндз Сяргей Сурыновіч****.*

*Шаноўны ксёндз Сяргей! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды.*

*Няхай кожны дзень Вашага пастырскага жыцця будзе благаслаўлёны! Моцнага Вам здароўя, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак! Няхай Пан Бог і Маці Божая адудзячаць Вам і адораць патрэбнымі ласкамі, а добры Езус валадарыць у Вашым сэрцы!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

## Паважаны ксёндз Вячаслаў!

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з найвялікшым святам Уваскрасення Пана! Няхай Пан Бог адорыць Вас здароўем, даўгалеццем, каб Вы яшчэ шмат гадоў вялі нас да Яго!*

*Дзякуем Вам за Вашу нялёгкую працу, за дапамогу ў духоўных і сямейных справах! Дзякуем Пану Богу за тое, што Вы ёсць у нас! Нізкі Вам паклон ад усіх нас! Мы Вас любім!*

***Вернікі капліцы вёсак Забалоцце і Дзедзіна***




# Пазнавайкай

**1. заданне**

Апосталы спяшаюцца да пустой магілы Уваскрослага Хрыста. Дапамажы ім хутчэй дабегчы да магілы Езуса, і ўбачыць, што Ён Уваскрос!



**2. заданне**

**Злучы па кропках, і паглядзі, хто адваліў камень ад магілы Езуса?**



**3. заданне**

Калі разгадаеш крыжаванку ў сярэдзіне атрымаеш назву галоўнага хрысціянскага свята.

1. **Асвячаем у Пальмовую Нядзелю.**
2. **Дзень тыдня, у які Езус уваскрос.**
3. **Радасны вокліч на Вялікдзень.**
4. **Аднатонна пафарбаваныя яйкі называюцца…**
5. **Па традыцыі іх асвячаюць на Вялікдзень.**
6. **Жанчына, якой першай пасля Уваскрасення з'явіўся Езус: Марыя…**
7. **Велікодная Імша на світанні.**
8. **Месца, дзе спаткаўся Езус са сваімі вучнямі пасля Уваскрасення.**
9. **Хто адсунуў камень ад магілы Езуса?**
10. **Сваім Уваскрасеннем Езус перамог…**



**4. заданне**

**У пакоі схавана 7 велікодных яек. Знайдзі іх!**



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына),* **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў),* **Ганна Аліхвер** *(Камаі),* **Яніна Дангель** *(Камаі),* **Генавефа Дубіловіч** *(Камаі),* **Ганна Казлоўская** *(Камаі),* **Крысціна Краміч** *(Камаі)*, **Гітана Лебедзь** *(Камаі),* **Яўгенія Нядзведская** *(Камаі),* **Марыя Роліч** *(Камаі),* **Яўгенія Хведзевіч** *(Камаі),* **Яніна Сінкевіч** *(Муляры),* **Ала Наумчык** *(Камаі),* **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы),* **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы),* **Валянціна-Таццяна Сапель** *(Браслаў),* **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль),* **Валянціна Мурзёнак** *(Паставы),* **Яніна Лубінская** *(Шэметава),* **Дануся Голубева** *(Бабінавічы),* **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна),* **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы),* **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына),* **Ганна Анішкевіч** *(Паставы),* **Баляслава Немыцкая** *(Паставы),* **Зенона Альксінін** *(Браслаў),* **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае),* **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск),* **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Трайко Я.А.** *(Карасіна),* **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава),* **Яўгенія Чарняўская** *(Парубкі),* **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог),* **Марыя Казакевіч** *(Відзы),* **Браніслава Юран** *(Браслаў),* **Алена Махальская** *(Пасвілле),* **Марыя Шук** *(Лявонпаль),* **Далгашэй Г.А.** *(Ашмяны),* **Жанна Юрык** *(Глыбокае),* **Марыя Юрык** *(Глыбокае),* **Аліна Кулікоўская** *(Шчучын),* **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева),* **Валянціна Курта** *(Луцк-Казлоўскі),* **Тэрэса Варановіч** *(Докшыцы),* **Галіна Данілава** *(Шуміліна),* **Ядвіга Будзія** *(Буяўшчына),* **Вільгельм Драгун** *(Варапаева),* **Даната Варанько** *(Друя),* **Ніна Шпак** *(Друйск),* **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў),* **Валянціга Голуб** *(Магіліцы),* **Святлана Зайцава** *(Свідна),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Эма Козел** *(Докшыцы),* **Ірына Кончыц** *(Гомель),* **Эльвіра Радкоўская** *(Маладзечна),* **Галіна Галуза** *(Падсвілле),* **Марыя Рагіня** *(Стары Двор),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Ганна Швед** *(Людвінова),* **Эмілія Стакло** *(Юльянова),* **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы),* **Вацлава Скрага** *(Падсвілле),* **Іван Кашчыц** *(Ашмяны),* **Марунько Н.Н.** *(Новалукомль),* **Фалевіч С.Л.** *(Камарова).*

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***“Каталіцкага Весніка”***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем букет віншаванняў з Днём нараджэння* ***ксяндзу Валерыю Орсіку*** *(11 красавіка) і* ***ксяндзу Алегу Хмылко*** *(13 красавіка)!*

*Шаноўныя нашы святары! Віншуем Вас і жадаем моцнага здароўя, Божага благаславення, доўгіх гадоў жыцця, здзяйснення ўсіх мараў і задумак, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства. Няхай Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, хай Езус Хрыстус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Марыя – Яго Маці – апякуецца і нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам!*

*Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў!*

***З павагай і ўдзячнасцю ад імя ўсіх парафіян касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне, Данута Голубева***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**

1 – В; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 – А; 6 – Б; 7 – В; 8 – Б; 9 – А; 10 – В

# Поможем все вместе!!!



**Даша Шепетовская** *(г. Новополоцк)* родилась 15 августа 2019 года на 31 неделе, (весом 1 440 граммов)

В декабре 2019 года, спустя 4,5 месяца ей поставили страшный диагноз **СПИНАЛЬНАЯ МЫШЕЧНАЯ АТРОФИЯ (SMA) 1-го типа**. Это редкое генетическое и смертельное заболевание, в результате которого погибают моторные нейроны спинного мозга и развивается мышечная атрофия, блокируется подача достаточного количества белка для нормального развития мышц.

СМА затрагивает способность ползать и ходить, двигать руками, головой и шеей, а также дышать и глотать.

Детям с таким диагнозом врачи не дают никаких надежд, большинство (80%) не доживают до двух лет, при отсутствии лечения. На сегодня вариант лечения существует, но препараты, необходимые ребенку, мы должны приобрести за счет собственных средств. Есть два препарата Spinraza и Zolgensma. Различия в том, что Spinraza необходимо колоть пожизненно, а Zolgensma - это однократная вакцина. Стоимость одного укола Spinraza составляет 96, 035 евро. Стоимость препарата на первый курс составляет 384,140 евро (4 ампулы). Стоимость однократной вакцины Zolgensma 2,125,000 долларов плюс дополнительные расходы в клинике. Со спецификой течения болезни и огромной стоимостью вакцин, мы надеемся на лечение любым из предложенных препаратов.

У нашей семьи нет возможности самостоятельно оплатить лечение, поэтому мы просим о любой помощи у Вас.

**Благотворительные счета** открыты в филиале 216 - г. Полоцк, ул. Ф. Скорины, 4;
УНП 300230580; МФО AKBBBY21216:

- белорусские рубли
- транзитный счёт
BY59AKBB38193821068492300000
на благотворительный счёт
BY89AKBB31340000081232320144
в отделении 216/144, бессрочный
- доллары США
- транзитный счёт
BY19AKBB38193823113602300000
на благотворительный счёт
BY44AKBB31340000081262320144
в отделении 216/144, бессрочный
- евро
- транзитный счёт
BY19AKBB38193823113602300000
на благотворительный счёт
BY14AKBB31340000081282320144
в отделении 216/144, бессрочный
- российские рубли
- транзитный счёт
BY19AKBB38193823113602300000
на благотворительный счёт
BY29AKBB31340000081272320144
в отделении 216/144, бессрочный

**Назначение платежа:** Для зачисления на благотворительный счет, открытый на имя Шепетовского Александра Сергеевича на лечение дочери Шепетовской Даши.

Так же есть группа в ВКонтакте, Одноклассниках, Facebook, Instagram, Telegram.

**Спасибо всем за вашу помощь!**

*С уважением,* ***Шепетовская Г.А.***

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому



Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта***
***Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1827

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 09.04.2020 г. у 12.05

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь